© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 3 (739)** **18 СТУДЗЕНЯ 2006 г.**

## Дарагія сябры "Нашага слова"!

Сёння мы паведамляем вынікі падпіснай кампаніі на нашую газету на 1-шы квартал 2006 года. У нас адбылося павелічэнне колькасці падпісчыкаў па ўсіх абласцях і ў цэлым па краіне, акрамя Віцебскай. Нарэшце мы зноў перасягнулі доўгачаканую тысячу, якая была ў нас даўно, да забароны дзяржаўным структурам падпісвацца на нашую газету.

Парадавалі многія гарады і раёны, а ў першую чаргу г. Горкі, дзе падпіска вырасла з 4 да 56 асобнікаў, ну і вядома, Менск, дзе ў многім дзякуючы намаганням сакратарыяту падпіска вырасла на 70 асобнікаў.

| | Кастрычнік | Студзень |
|---|---|---|
| **Берасцейская вобласць:** | | |
| Баранавічы р.в | 11 | 17 |
| Бяроза р.в. | 6 | 7 |
| Белаазёрск р.в | 4 | 2 |
| Бярэсце гор. | 16 | 22 |
| Ганцавічы р.в. | - | 1 |
| Драгічын р.в | 2 | 3 |
| Жабінка р.в. | - | - |
| Іванава р.в | 2 | 3 |
| Івацэвічы р. в. | 6 | 7 |
| Камянец р.в. | 2 | 9 |
| Кобрын гор. | 1 | - |
| Лунінец гор. | 2 | 2 |
| Ляхавічы р.в. | 1 | 2 |
| Маларыта р.в. | 1 | 2 |
| Пінск гор. | 13 | 9 |
| Пружаны р.в. | 6 | 2 |
| Столін р.в. | 2 | 2 |
| **Усяго:** | **75** | **90** |
| **Віцебская вобласць:** | | |
| Бешанковічы р.в. | 2 | 2 |
| Браслаў р.в. | 1 | 1 |
| Віцебск гор. | 32 | 29 |
| Віцебск РВПС | 1 | 1 |
| Верхнедзвінск р.в. | 11 | 9 |
| Глыбокае р.в. | 9 | 9 |
| Гарадок р.в. | 4 | 3 |
| Докшыцы р.в. | 2 | 2 |
| Дуброўня р.в. | - | - |
| Лёзна р.в. | - | - |
| Лепель р. в. | 1 | 1 |
| Міёры р.в. | 3 | 3 |
| Новаполацк гор. | 26 | 30 |
| Ворша гор. | 5 | 7 |
| Полацк гор. | 12 | 10 |
| Паставы р.в. | 3 | - |
| Расоны р.в. | 1 | 1 |
| Сянно р.в. | 1 | 3 |
| Талочын р.в. | 2 | 1 |
| Ушачы р.в. | 2 | 2 |
| Чашнікі р.в. | 2 | 2 |
| Шаркоўшчына р.в. | 4 | 7 |
| Шуміліна р.в. | 1 | - |
| **Усяго:** | **124** | **123** |
| **Менская вобласць:** | | |
| Беразіно р.в. | 1 | 2 |
| Барысаў ггор. | 2 | 5 |
| Вілейка гор. | 4 | 3 |
| Валожын гор. | 5 | 4 |
| Дзяржынск р.в. | 2 | 4 |
| Жодзіна гор. | 5 | 5 |
| Клецк р.в. | - | 1 |
| Крупкі р.в. | 3 | 3 |
| Капыль р.в. | - | - |
| Любань р.в. | 5 | 3 |
| Менск гор. | 274 | 344 |
| Менск РВПС | 10 | 11 |
| Маладзечна гор. | 14 | 17 |
| Мядзель р.в. | 9 | 7 |
| Пухавічы РВПС | 7 | 7 |
| Нясвіж р.в. | 3 | 5 |
| Смалявічы р.в. | 2 | 1 |
| Слуцк гор. | 7 | 8 |
| Салігорск гор. | 4 | 5 |
| Ст. Дарогі р.в. | 1 | 1 |
| Стоўбцы р.в. | 2 | 3 |
| Узда р.в. | 1 | - |
| Чэрвень р.в. | 4 | 4 |
| **Усяго:** | **364** | **447** |

| | Кастрычнік | Студзень |
|---|---|---|
| **Гомельская вобласць:** | | |
| Буда-Кашалёва | - | - |
| Брагін р.в. | 2 | 2 |
| Ветка р.в. | 1 | 1 |
| Гомель гор. | 30 | 37 |
| Гомель РВПС | 1 | 1 |
| Добруш р.в. | 2 | 1 |
| Ельск р.в. | 1 | - |
| Жыткавічы р.в. | 14 | 22 |
| Жлобін гор. | 4 | 5 |
| Калінкавічы гор. | 2 | 3 |
| Карма р.в. | 1 | 1 |
| Лельчыца р.в. | 1 | - |
| Лоеў р.в. | 1 | 1 |
| Мазыр гор. | 5 | 4 |
| Акцябарскі р.в. | - | - |
| Нароўля р.в. | 1 | 1 |
| Петрыкаў р.в. | 1 | 1 |
| Рэчыцца гор. | 1 | - |
| Рагачоў гор. | 1 | 1 |
| Светлагорск гор. | 6 | 8 |
| Хойнікі р.в. | 2 | 1 |
| Чачэрск р.в. | 3 | 1 |
| **Усяго:** | **80** | **92** |
| **Гарадзенская вобласць:** | | |
| Бераставца | 8 | 9 |
| Ваўкавыск гор. | 10 | 9 |
| Воранава р.в. | 5 | 5 |
| Гародня гор. | 39 | 38 |
| Гародня РВПС | 9 | 8 |
| Дзятлава р.в. | 7 | 4 |
| Зэльва р.в. | 2 | 3 |
| Іўе р.в. | 4 | 4 |
| Карэлічы р.дв. | 4 | 5 |
| Масты р.в. | 8 | 10 |
| Навагрудак гор. | 5 | 8 |
| Астравец р.в. | 7 | 8 |
| Ашмяны р.в. | 6 | 6 |
| Смаргонь гор. | 12 | 11 |
| Слонім гор. | 10 | 14 |
| Свіслач р.в. | 7 | 5 |
| Шчучын р.в. | 5 | 4 |
| Ліда | 10 | 20 |
| **Усяго:** | **158** | **171** |
| **Магілёўская вобласць:** | | |
| Бабруйск гор. | 6 | 13 |
| Бабруйск РВПС | - | - |
| Бялынічы р.в. | - | - |
| Быхаў р.в. | 1 | 1 |
| Глуск р.в. | 1 | - |
| Горкі гор. | 4 | 56 |
| Дрыбін р.в. | 1 | 1 |
| Кіраўск р.в. | - | 1 |
| Клічаў р.в. | 1 | 1 |
| Клімавічы р.в. | 1 | 1 |
| Касцюковічы р.в. | 1 | 1 |
| Краснаполле р.в. | 1 | 1 |
| Крычаў р.в. | 1 | 1 |
| Круглае р.в. | 2 | 2 |
| Мсціслаў р.в. | 2 | 2 |
| Магілёў гор. | 12 | 33 |
| Магілёў РВПС | - | 1 |
| Асіповічы гор. | 7 | 8 |
| Слаўгарад р.в. | 3 | 1 |
| Хоцімск р.в. | 1 | - |
| Чэрыкаў р.в. | 10 | 6 |
| Чавусы р.в. | 1 | 1 |
| Шклоў р.в. | 3 | 5 |
| **Усяго** | **59** | **136** |
| **Усяго на краіне** | **860** | **1059** |

# "Наша слова" выціснулі з шапікаў "Мінскгарсаюздруку"

*Перад Новым годам рэдакцыя газеты "Наша слова" атрымала ад УП "Мінскгарсаюздрук" ліст, у якім нас праінфармавалі, што "Мінскгарсаюздрук" не хоча заключаць дамову на продаж газеты "Наша слова" ў сваіх шапіках. Гэта ўжо не першая спроба "Мінскгарсаюздруку" пазбавіцца ад нашай газеты. На працягу некалькіх гадоў мы рознымі спосабамі знаходзілі кампраміс. Апошні раз гэта было ў чэрвені 2005 года. Мы спадзяваліся, што і на гэты раз нам удасца дамовіцца. Мы накіравалі лісты дырэктару УП "Мінскгарсаюздрук" І. В. Дудзічу, а таксама старшыні Менскага гарвыканкаму сп. Паўлаву. Нажаль на гэты раз нам не пайшлі насустрач. Першыя два нумары газеты, адпраўленыя ў Менск, у продаж не паступілі і вернуты ў рэдакцыю. Атрыманы і адмоўныя адказы, якія будуць надрукаваныя ў наступным нумары.*

МІНІСТЭРСТВА ІНФАРМАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
**Гандлевае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства**
**«МІНГАРСАЮЗДРУК»**
220050, г. Мінск, вул. Валадарскага, 16
Тэл./факс: (017) 227-46-94

МИНИСТЕРСТВО ИНФОРМАЦИИ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
**Торговое республиканское унитарное предприятие**
**«МИНГОРСОЮЗПЕЧАТЬ»**
220050, г. Минск, ул. Володарского, 16
Тел./факс: (017) 227-46-94

«6» 12 2005 г. № 01-2/1779
На № ____ от «___» ________ 200__ г.

**Редакция газеты «Наша слова»**

УП «Мингорсоюзпечать» информирует, что договор на реализацию газеты «Наша слова» на 2006 год заключаться не будет.

Данное решение принято на основании высокого процента списания газеты «Наша слова» в 2005 году - 76,8%.

Письмом от 05.04.2005 г. № 01-2/468 УП «Мингорсоюзпечать» уже уведомляло редакцию о своем праве прервать договор в случае превышения остатков нереализованных экземпляров свыше 30%.

Кроме того, редакцией не выполняется п. 2.1 договора № 115 от 15.04.2005 г.

На основании вышеизложенного считаем, что газета «Наша слова» в настоящее время не востребована населением г. Минска и невыгодна УП «Мингорсоюзпечать» для распространения.

**Директор предприятия** **И.В. Дудич.**

*Што рабіць у гэтай сітуацыі? Адказ відавочны: змагацца супраць парушэння нашага канстытуцыйнага права атрымоўваць інфармацыю на роднай мове, за права ў любым месцы купіць тыя газеты, якія хочацца, а не тыя, якія вызначылі чыноўнікі ад гандлю з "Мінскгарсаюздруку".*

*(Працяг тэмы на ст. 2.)*

# 180 гадоў з дня нараджэння Рамуальда Траўгута



**ТРАЎГУТ** Рамуальд Людвікавіч [4(16). 10 1826, в. Шастакова Берасцейскага пав., цяпер Камянецкі р-н — 24.7(5.8).1864], адзін з кіраўнікоў паўстання 1863—64 на Беларусі і ў Польшчы. Вучыўся ў Свіслацкай гімназіі. З 1845 у войску. Удзельнічаў ў Крымскай вайне 1853—56. З 1862 падпалкоўнік у адстаўцы, жыў у маёнтку Востраў Кобрынскага пав. У крас. 1863 узначаліў Кобрынскі паўстанцкі аддзел, які ў баях з карнікамі каля в. Горкі тройчы нанёс ім значныя страты. У чэрв. 1863 разам з Берасцейскім аддзелам Я. Ваньковіча зрабіў рэйд на Піншчыну і паўночную Валынь. У ліп. 1863 з дапамогай Элізы Ажэшкі выехаў у Варшаву. У чыне генерала быў прадстаўніком паўстанцкіх улад за мяжой. З кастр. 1863 кіраўнік Нац. ураду ў Варшаве, фактычна дыктатар паўстання. Шмат зрабіў, каб надаць паўстанню новы размах, пашырыць яго сац. базу, рэарганізаваць паўстанцкія ўзбр. сілы. 30.3. 1864 арыштаваны і паводле прыгавору ваен. суда павешаны ў Варшаўскай цытадэлі. У Вял. Айч. вайну ў СССР сфармавана польская дывізія імя Т. У г. Свіслач помнік Т. (устаноўлены ў 1928, адноўлены ў 1989).



*Помнік Рамуальду Траўгуту ў Свіслачы*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# Я НА ВАС НЕ ЛАЯЛА!..

***Мы з аднакурсніцай не бачыліся амаль трыццаць гадоў, таму нават на выхадзе з вагона перамаўляліся, успаміналі. Яна ехала далей, у Баранавічы, а мне на вакзале ў Мінску трэба было з паўгадзіны бавіць час, пакуль адкрыецца метро. Следам за мною з цягніка выходзілі сталага веку жанчына з мужчынам, якія прамовілі: "У мінулым годзе ў Мінску ні разу не пачулі беларускай гаворкі, а тут адразу двое, ды так хараша гамоняць. Як жа нам прыемна чуць родную мову пасля Масквы, каб вы ведалі!" Мы пайшлі разам на вакзал. Мае спадарожнікі папрасілі параіць, якія беларускія газеты купіць, бо ехаць ім на Гомельшчыну яшчэ з паўдня: хоць бы якія навіны даведацца! Такая настальгія па родным слове...***

У першым жа вакзальным кіёску "Белсаюздрук" на нашу просьбу прадаць беларускія газеты прапанавалі "Рэспубліку", але яна не задаволіла маіх спадарожнікаў, бо акрамя беларускай літары "і" ў загалоўку больш ні на адной старонцы не знайшлося ніводнага слова па-беларуску.

— Так что же вы хотите?! — незадаволена спытала прадаўшчыца.

Я кінулася выручаць маіх новых знаёмых і ратаваць гонар сталічнага кіёска. Пачала пералічваць беларускамоўныя выданні. Папрасіла газету "Літаратура і мастацтва". Прадаўшчыца адразу ж падала "Литературную газету". Прашу прадаць газету "Культура", а яна прапануе "Культуру" расійскую. Пра "Голас Радзімы", які ўзгадалі ўжо самі маскоўскія беларусы, гаспадыня кіёска і ведаць не надала. Тады ўспомнілі пра часопісы "Беларусь", "Полымя", "Маладосць". Ды дзе там! Не было ў кіёску нават газеты "Звязда". Аказваецца, "уже продалась, да их и было-то только две", — такі быў адказ. Аднак жа ўсе вітрыны кіёска шчыльна завешаны і застаўлены самымі рознымі выданнямі: іх мо сотні, але ніводнага беларускамоўнага. Не верыце — праверце самі.

Мы абышлі вакол вакзала ўсе кіёскі, усе кропкі продажу літаратуры і не знайшлі беларускіх газет і часопісаў. Я згарала ад сораму.

Вяртаючыся дадому, ля станцыі метро "Усход" міжволі звярнула ўвагу на надзвычай сімпатычны рэкламны шчыт з надпісам "Купляйце беларускае". На ім быў усяго толькі штрыхкод беларускіх тавараў, але сэнс гэтых двух слоў запаў у памяць, застрэміў душу, бо пад яго падпадала ўсё, што супярэчыла рэчаіснасці, не адпавядала штодзённым рэаліям.

Дома таго ж дня пачула па радыё анонс рэспубліканскіх газет і пайшла купіць газету "Звязда", сённяшнюю, свежую. Ні ў адным кіёску па ўсім мікраравёне Уручча газеты а 10-й гадзіне ўжо не было. Не купіла я яе і ў кіёсках на праспекце Незалежнасці — галоўнай магістралі беларускай сталіцы.

Такім чынам, даведалася, што ў кіёскі (і то не ў кожны) у самым цэнтры сталіцы паступае ўсяго толькі адзін(!), адзіны на тыдзень экземпляр "Культуры", адзін-два — на дзень — газеты "Звязда" і ніводнага — "Літаратуры і мастацтва". Затое "Комсомольская прав-Да!" і іншыя расійскія выданні ў кожным кіёску "Белсаюздруку" маюцца ў велізарнай колькасці. Я не паверыла: па 300—400 экземпляраў "Камсамолкі" штодзень(!!!) прадае адзін кіёск. А "Культуры" ці "ЛіМа" і аднаго на працягу тыдня па ўсім горадзе са свечкай не знойдзеш. Дарэчы, у аўторак, ужо з раніцы, на плошчы Перамогі, дзе ёсць адзіны ў горадзе кіёск-магазін з гэтымі газетамі (у падземным пераходзе), іх ужо не было. Чаму?! Чаму мне трэба патраціць чатыры талоны (тралейбус-метро і назад), змарнаваць добрую гадзіну часу, каб набыць недзе сваю газету? Ды талькі за грошы, якія патрачаны за праезд, можна было б купіць яшчэ два выданні.

Прадаўцы апраўдваліся: маўляў, гэтыя газеты нібыта не прадаюцца, што вельмі праблемна іх спісаць. А вось расійскія выданні спісваюцца, колькі і калі хочаш.

Яшчэ мне скардзіліся, што калі кіёскі не прадаюць датаваныя дзяржаўныя выданні, то за гэта з прадаўцоў вылічваюць кошт непрададзенай беларускай прадукцыі ды яшчэ і пазбаўляюць прэмій ці надбавак. Разумеецe, яны — "стрэлачнікі", крайнія.

Значыць, з аднаго боку, дзяржава падтрымлівае беларускія выданні, а з другога — той жа "Дзяржкамдрук" гэтую падтрымку дыскрэдытуе. Дык за савецкім часам паўсюль можна было купіць процьму беларускіх газет, і ўчарашніх, і пазаўчарашніх. Куды ж мы прыйшлі?!

Дарэчы, непадалёк ад рэдакцыі газеты "Культура" (дзе я таксама не змагла выпрасіць-купіць хоць бы адзін экземпляр беларускіх штотыднёвікаў) па вул. Янкі Купалы, амаль побач з помнікам Максіму Багдановічу, у кіёску ўвогуле не ведаюць, што гэта за газета такая! Прадаўшчыца не змагла і кошт яе назваць.

Побач з рэдакцыяй "ЛіМа" ў кіёску "Белсаюздрук", што па плошчы Перамогі, ля крамы "Каравай", таксама нельга купіць той жа "ЛіМ".

У некагорых кіёсках можна бышо пачуць сакраментальны адказ: "Культуры у нас нет. Культура продана"".

Мне раілі ў кіёсках па тыднёвікі "ЛіМ", "Культуру" і іншыя звяртацца ў магазіны " Белсаюздрук". Я і звярнулася! Побач — метро, скрыжаванне вялікіх транспартных патокаў, як муравейнік, віруе натоўп. Але ў суботу і нядзелю, калі выходзяць штотыднёвікі, гэты "магазін" не працуе. Я ўпарта дастукалася туды ў панядзелак. Але названых газет там ніколі не бывае. Паспрабавала запатрабаваць той тавар, які абавязаны прадаваць так званы магазін, беспаспяхова даказвала, што тут павінны быць цэнтральныя, рэспубліканскія беларускія выданні. Як звычайі бывае, ад маёй упартасці ў прадаўшчыцы павысіўся тон, яна проста пачала па-бабску сварыцца, маўляў, "ходят тут всякие" і пд. Я ёй кажу: "Хачу ў вас купіць тое, што вы павінны прадаваць, дык чаго вы на мяне лаецеся?"

— Адказ быў проста класічны: "Я НА ВАС НЕ ЛАЯЛА!!" А які ж абураны тон!

Дык скажыце, шаноўныя, ці здалее такая кабета, якая не разумее розніцы паміж рускім словам "лаять" і беларускім "лаяцца", адчуць, зразумець, даўмецца да сэнсу тае самае рэкламы "Купляйце: беларускае"? Трэба перш за ўсё вучыць культуры мовы і культуры чалавечых адносін тых самых прадаўшчыц, якія штодня паміж намі, спажыўцамі друкаваных выданняў, і найбагацейшымі духоўнымі скарбамі, якімі яны валодаюць, не адчуваючы іх каштоўнасці.

Разумею, што лепш за ўсё падпісацца на пошце на тую ці іншую газету ці часопіс. Аднак не падпішашся ж на ўсе газеты адразу. Ды я прынцыпова хачу купляць тое, што хачу і калі хачу. А іншы раз мне трэба некалькі экземпляраў той ці іншай газеты, каб адаслаць сваёй калежанцы-аднакурсніцы, інваліду з мізэрнай пенсіяй, якая чакае маіх лістоў і пасылак са свежай перыёдыкай. Разумею так: калі гэта штотыднёвік, то на працягу тыдня я павінна мець магчымасць купіць яго ў любым сталічным кіёску.

Пачала пісаць гэты ліст улетку. Тады хоць у пераходзе на пл. Перамогі нейкім чынам заставаўся "ЛіМ". Апошнім часам нічога не змянілася на лепшае. Наадварот, цяпер і на плошчы Перамогі немагчыма купіць беларускія газеты. У суботу зранку там "ЛіМа" ўжо не было. Відаць, многія дазналіся, што тут яго можна набыць, і раскупляецца тыднёвік за адзін дзень. А што значыць 10 экземпляраў на кіёск у цэнтры горада, адзіны ва ўсёй сталіцы?! Прадаўцы сказалі, што "ЛіМ" куплялі па 3—4 экземпляры. "А што там бышо цікавае?" — пыталіся яны ў мяне.

З другога боку, трэба выказаць велізарную ўдзячнасць таму ж Дзяржкамдруку за падтрымку беларускай музыкі ў эфіры радыёстанцый. Як бы ні крыўляліся шоўмены, вядучыя-дыскжакеі FM-станцый, каметуючы гэтыя славутыя 75 працэнтаў, але ўсё ж паменела пустой расійскай папсы і хоць калі-нікалі, але пачуеш і добрую, і нават беларускую песню. А каб жа яшчэ паадчынялі архівы ды перанеслі на лічбавыя носьбіты ранейшыя запісы савецкіх часоў... Але і за тое дзякуй.

На талебачанні ўжо, напэўна, позна нешта мяняць. Юны маладзён-вядучы з ОНТ запрасіў у ранішнюю праграму на Дзень Маці выдатную пісьменніцу Людмілу Рублеўскую, адразу абвясціўшы, што, маўляў, "у нас нынче будет этакий билингвизм", павёў гаворку, зразумела ж, парусску. Няўжо два пытанні не маглі дапамагчы яму сфармуляваць калегі пабеларуску — хаця б з-за павагі да Жанчыны, да Маці, да беларускай пісьменніцы?!

Тое ж самае было і на БТ падчас размовы з навукоўцам, даследчыкам, фальклarыстам, дацэнтам, кандыдатам гістарычных навук, загадчыкам кафедры БДПУ імя М. Танка Алесем Шамаком. Паверце, ну вельмі недарэчна гучыць такая гаворка. Няўжо зусім перавяліся беларускамоўныя вядучыя? А запрашаюць жа ўвесь час на платную вучобу вядучых і рэжысёраў талебачання.

Да білінгвізму далучыўся і тэлеканал "Лад". Знайшлі ж, занрасілі выдатных суразмоўцаў — удзельнікаў студэнцкага тэатра "Жывое слова" са сталічнага педуніверсітэта імя М. Танка. Тыя вельмі хораша, проста выдатна (школа Ф. Янкоўскага!) вядуць гаворку па-беларуску, а абодва вядучыя ўстаўляюць свае "пяць капеек" на "русском языке", ды яшчэ і з памылкамі, ды яшчэ і з вымаўленнем такім, што і руская людзі не пахвалілі б іх за тое, што калечаць "великий и могучий"...

Але там, як птушка, размова ў "прамым" эфіры вылецела і не зловіш. А напісанае — застаецца. Дык што ж застанецца, калі і надалей будзе такое стаўленне да беларускай перыёдыкі, да беларускай мовы і літаратуры?

Вельмі хацелася б атрымаць адказ на мае пытанні-разважанні. А яшчэ большае жаданне — пачуцьпачытаць думкі-меркаванні такіх, як я, чытачоў маёй любімай газеты "ЛіМ", якую я чытаю больш трыццаці гадоў і хачу, спадзяюся купляць яе на кожным скрыжаванні, у кожным кіёску Беларусі.

**З павагай, Галіна СУША.**
**Фота В. Кавалёва.**

ЛІМ, 16 снежня 2005 г.




*За беларускай шыльдай не засталося нічога беларускага*

## "Наша слова" выціснулі з шапікаў "Мінскгарсаюздруку"

*16 снежня 2005 года, калі дзяржаўная газета "Літаратура і мастацтва" надрукавала гэты артыкул, "Наша слова" яшчэ прадавалася ў шапіках "Мінскгарсаюздруку", але курс гэтай гандлёвай структуры на выцясненне ўсяго беларускага быў ужо вызначаны, што і засведчыў "ЛіМ".*

*Фармальнай зачэпкай да газеты "Наша слова" стаў высокі каэфіцыент спісання і надуманыя парушэнні, якіх на самай справе не было. Газета адпраўлялася па пошце, і калі яе сядытады завозілі трохі не туды, то прэтэнзіі мусяць прад'яўляцца пошце, а не рэдакцыі, тым больш, што пошта заўсёды папярэджвала "Мінскгарсаюздрук", дзе забраць газету.*

*Другая прэтэнзія, што мы не спынілі пастаўку газеты пасля заканчэння тэрміну дзеяння папярэдняй дамовы, але ва ўсіх структурах існуе практыка пралангацыі дамовы, і калі дамова скончылася, а яе не пралангавалі, газету мусілі вяртаць, але яе не вярталі, а прадавалі, то чаму мы павінны былі самі спыняць пастаўку? Мы зусім лагічна лічылі дамову пралангаванай.*

*Што тычыцца каэфіцыента спісання, то ён сапраўды вялікі.*

*Але пры вялікім каэфіцыенце спісання дамовай прадугледжаны іншыя меры ўздзеяння, напрыклад, зніжэнне аб'ёму пастаўкі да ўзроўню, які адпавядаў бы прымальнаму каэфіцыенту спісання. Аднак прымяняць да нас такую меру не сталі, проста адмовіліся заключаць дамову і ўсё.*

*Такім чынам, спіс беларускамоўных газет, якіх нельга купіць у Менску папоўніўся газетай "Наша слова".*

*І зноў пытанне, што рабіць?*

***Па-першае, не мірыцца. У кожным шапіку ёсць "Кніга скаргаў і прапановаў". Рэдакцыя прапануе ўсім, хто хацеў купіць газету і не змог зрабіць гэтага, не пашкадаваць пяці хвілін, а запатрабаваць гэтую Кнігу і зрабіць запіс. Так мы адкажам на адно з пытанняў: запатрабавана "Наша слова" ў Менску ці не? Такія запісы можна рабіць у кожным шапіку і кожны дзень.***

*Наступныя хады будуць выпрацаваны на бліжэйшым Сакратарыяце ТБМ, а таксама на Радзе ТБМ, якая спланавана на канец месяца.*

*С. Суднік.*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013







*Алесь Астроўскі*

# НАША МЭТА – БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАВА!

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Наш "клопат пра іншых" прывёў да таго, што ў цэрквах і касцёлах у казаннях гучыць практычна толькі руская ці польская мовы. Да таго, што ва ўсёй Беларусі 1 верасня абсалютная большасць беларускіх дзяцей прыходзяць у першыя класы школ і пачынаюць вучыцца... па-руску (Чаму?! З якой такой нармальнай прычыны?!). Да таго, што далёка не ўсім бацькам увогуле, нават праз суд, удаецца выкарыстаць сваё "канстытуцыйнае права" і аддаць дзіця ў беларускі клас (напрыклад, выпадкі з Агатай Мацко ў Гародні, з Янкам Лапіцкім у Жодзіне). Да таго, што 27% беларускіх школьнікаў (дадзеныя афіцыйнай статыстыкі) вучацца сёння ў беларускіх школах, але, паступіўшы ў ВНУ, яны вымушаны пераходзіць на... рускамоўнае навучанне, таму што ў нас няма ніводнай беларускай ВНУ (з больш, чым чатырох дзесяткаў!). У Беларусі забаронены (гэта трэба ж да такога дадумацца) беларускія рок-гурты. У беларускага народу (у адрозненні ад шматлікіх іншых народаў) да гэтай пары няма Аўтакефальнай праваслаўнай царквы на чале з уласным патрыярхам. У нас пад выглядам праваслаўных святароў у шмат якіх выпадках працуюць... агенты маскоўскіх спецслужб, а на арганізатараў Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы адбываецца ўціск часта значна большы, чым на грамадска-палітычную апазіцыю! Толькі ў сучаснай Беларусі магчыма такое стаўленне да Курапат, якое ўсе мы маем непрыемнасць назіраць... Падобныя прыклады этнацыду ва ўсіх яго праявах можна доўжыць і доўжыць.

У кожнага сумленнага беларуса ў час думак пра ўсё гэта пачынае шчымець душа, балець сэрца. Гэта відавочны сімптом ультрасатанізму, у якім наш народ вымушаны быў жыць і працягвае жыць сёння. Вось ён – вынік нашай "гасціннасці", "памяркоўнасці", "талерантнасці", "утульнасці" для іншых, якія на справе абарочваюцца касмапалітызмам, каланіялізмам, а пазней маральнай дэградацыяй і фізічным выміраннем беларусаў (з'явы, якія, дарэчы, сп-р Краўчанка ў сваім артыкуле абсалютна правільна канстатаваў).

У рускага і паляка, ва ўкраінца і габрэя, у летувіса і мігранта з краін СНД ёсць уласныя нацыянальныя эліты і ўлады, якія пра іх паклапоцяцца значна лепш, чым клапоцімся мы з вамі пра наш народ. А пра яго акрамя нас не будзе клапаціцца ніхто! Наадварот, калі хто і запытаецца калі-небудзь пра лёс беларусаў, дык ён спытае з нас – прадстаўнікоў нацыянальнай эліты. У пералічаных народаў і блізка няма тых праблем з іх культурай, мовай, "дэмаграфіяй", незалежнасцю, свабодай, іншымі нацыянальнымі каштоўнасцямі, якія ёсць сёння ў нас. Ды і ўвогуле, мы гаворым не пра становішча беларусаў на тэрыторыі дзяржаў іншых народаў, а пра беларускі народ на сваёй уласнай зямлі! І гэта накладае на нас дадатковыя абавязкі. Таму давайце перад тым, як рабіць абсалютна непатрэбныя шырокія псеўдаінтэрнацыянальныя жэсты, выканаем іх – свае абавязкі.

Заяўляю: да той пары не толькі для сапраўднага беларускага нацыяналіста, а і для кожнага звычайнага беларуса павінна быць абыякава ступень утульнасці, якую адчуваюць на нашай зямлі прадстаўнікі іншых народаў, пакуль кардынальным чынам не зменіцца шэраг абставінаў. Пакуль усе беларусы ні на словах ці ў марах, ні ў праектах ці праграмах, а ў жыцці адчуюць сябе гаспадарамі сваёй уласнай зямлі і свайго ўласнага лёсу. Пакуль на практыцы не нармалізуецца ў поўным аб'ёме ўся сістэма беларускіх агульнанацыянальных каштоўнасцяў, уключаючы і беларускія дзяржаўнасць, незалежнасць, свабоду, і беларускія мову, культуру, гісторыю, сімвалы, веру, і беларускія светагляд, "дэмаграфію", "экалогію", эканоміку, генафонд. Пакуль у іншых краінах, дзе пражываюць беларусы, пра іх не пачнуць клапаціцца не менш, чым збіраемся клапаціцца мы пра прадстаўнікоў іншых нацыяў у нашай дзяржаве. У тым ліку пасля таго, як, напрыклад, у Расеі пачнуць адчыняць беларускія школы і ВНУ, пачнуць рэтлянсляваць поўнасцю беларускамоўныя тэлеканалы хоць бы на этнічных беларускіх тэрыторыях – на Браншчыну, Смаленшчыну, паўднёвую Пскоўшчыну, а таксама ў Сібіры, дзе вельмі шмат беларусаў...

І калі для дасягнення ўсяго гэтага трэба будзе прыняць не толькі палажэнні аб адзінадзяржаўнасці беларускай мовы і аб выкарыстанні беларускай нацыянальна-гістарычнай сімволікі ў якасці дзяржаўнай (адмяніўшы цяперашнюю сімволіку посткамуністычнай бюракратыі), а таксама прыняць шэраг іншых палажэнняў: аб тым, што на самых высокіх дзяржаўных пасадах маюць права быць толькі этнічныя беларусы, што доля беларусаў сярод усіх кіраўнічых кадраў у палітыцы, эканоміцы, ідэалогіі, інфармацыйнай сферы, культуры, спецслужбах не можа быць меншай за іх долю сярод усіх грамадзян Беларусі, што абсалютная і адносная колькасць беларусаў у Беларусі ў мірны час не мае права памяншацца ні пад якім прэтэкстам, і т.п. – значыць і гэта трэба будзе і ўвесці ў будучую беларускую Канстытуцыю, і зрабіць практычна.

З мэтай доказу абсалютнай гуманістычнасці дадзеных прынцыпаў гатовы ўдзельнічаць у дыскусіях на самых вялікіх публічных форумах, дзе нехта паспрабуе давесці, што іх альтэрнатыва больш гуманістычная (што "абсалютная і адносная доля беларусаў у Беларусі павінна памяншацца", што "доля беларусаў у кіраўнічых кадрах павінна быць меншай, чым іх доля сярод насельніцтва Беларусі", што "вышэйшыя дзяржаўныя пасады, уключаючы пасаду прэзідэнта нашай дзяржавы, павінен займаць не беларус"). Як вы напэўна загадзя ведаеце, ніхто на такія публічныя дыскусіі не выйдзе. Зло баіцца адкрытасці, публічнасці, яно можа дзейнічаць толькі подла, тайна, нажом у спіну, атрутай у ежу, ракетай па сотавіку...

Захаваць беларускі народ, яго культуру, дзяржаву любым чынам, як каштоўнасці – унікальныя, абсалютныя, святыя і патэнцыйна вечныя! Гэта патрабаванне не толькі "нацыяналістаў". Гэта патрабаванне ўсіх гуманістаў у імя будучыні агульналюдскай цывілізацыі, бо толькі ў форме разнастайнасці народаў чалавецтва здольна захаваць перспектыву прагрэсіўнага гуманістычнага развіцця!

І толькі пасля канчатковага вырашэння ўсіх беларускіх праблем будзе і лагічна, і этычна ставіць пытанне на тэму, каму яшчэ можна забяспечыць утульнае жыццё на нашай беларускай зямлі. Але і ў гэтым выпадку трэба глядзець індывідуальна і канкрэтна, каму і што можна дазваляць.

Больш за тое, нават з пазіцый сапраўднага інтэрнацыяналізму запускаць у наш дом іншых – таксама выйсце не лепшае. Значна лепш спачатку высвятліць, чаму адпаведным народам кепска жывецца ў іх уласных краінах, чаму яны вымушаны эміграваць. Высветліўшы гэта, рэальна дапамагчы ім, каб у іх не было патрэбы пакідаць сваю радзіму... Ды як можна займацца і гэтым, пакуль многія маладыя беларусы з-за бесперспектыўнасці нашага жыцця вымушаны з'язджаць у Еўропу, Амерыку, пакідаючы родную Беларусь і, дарэчы, моцна пакутуючы пры гэтым? Давайце нарэшце дапаможам ім, каб яны маглі будаваць беларускія амерыкі ды еўропы ў сваёй уласнай дзяржаве!

Карацей, усё будзе і добра, і правільна, і культурна, і цывілізавана, і дальнабачна, і сучасна, а таксама нацыянальна, інтэрнацыянальна, гуманна (!), калі мы будзем увесь час зыходзіць найперш з аб'ектыўных інтарэсаў нашага беларускага народу, узгодненых з аб'ектыўнымі інтарэсамі ўсяго чалавецтва!

Але давайце пакуль пакінем спрэчкі паміж намі, а больш уважліва прыгледзімся да дзейнасці рэалізатараў цяперашняга рэжыму, апанаваўшага Беларусь. Давайце паглядзім не толькі на наступствы іх "палітыкі", а і на іх метады і мэты (дарэчы, тады нам лепш будзе бачны і прадмет нашага ўласнага клопату).

Прапаную для такога аналізу пачаць з паняцця "дэмакратыя", бо, як не дзіўна, менавіта на яго фоне можна найбольш выразна ўбачыць сутнасць сучасных беларускіх падзей.

**Змястоўная дэмакратыя**

У сучасным свеце няма адзінства ў разуменні сэнсу паняцця "дэмакратыя" (як, дарэчы, і шмат якіх іншых ключавых для сучаснай цывілізацыі паняццяў; напрыклад, да гэтай пары няма адзінага азначэння тэрміну "тэрарызм"). Галоўная прычына не ў тым, што людзі не могуць дадумацца да зместу той ці іншай з'явы. Людзі здольны сёння падлічыць масу Сусвету, расшыфраваць геном чалавека, сфатаграфаваць рух электронаў у малекулах і г.д. А тут такое простае пытанне, а разабрацца не могуць...

Адна з галоўных прычын адсутнасці азначэння "дэмакратыі" ў тым, што для многіх сацыяпаразітычных сіл дакладнае апісанне некаторых паняццяў (дэмакратыя, справядлівасць, свабода народа, эксплуатацыя, тэрор і г.д.) і іх адназначнае разуменне ўсёй агульналюдскай цывілізацыяй уяўляе вялікую небяспеку. Другая прычына абумоўлена прыцягальнасцю самаго тэрміну "дэмакратыя". Таму групы з рознай сістэмай каштоўнасцяў да асноўнага ідэалагічнага тэрміну, які сімвалізуе іх каштоўнасны набор, любяць дадаваць паняцце "дэмакратыя", якое належыць да сферы паліталогіі. У выніку атрымліваецца вялікі туман з ідэалагічна-палітычных паняццяў: ліберальная дэмакратыя, кансерватыўная дэмакратыя, сацыял-дэмакратыя, хрысціянская дэмакратыя, нацыянальная дэмакратыя.

Калі ж паслядоўна і непрадузята разабрацца ў змесце паняцця "дэмакратыя", становіцца зразумелым, што яно азначае не эклектычны набор абстрактных каштоўнасцяў, а звязаную, цэласную сістэму дакладных прынцыпаў практычнай палітычнай арганізацыі канкрэтнага грамадства, скіраванай на максімальнае раскрыццё яго стваральнага патэнцыялу. Каб вырвацца з тэрміналагічнага туману, давайце назавём палітычную арганізацыю ў дзяржаве, у якой назіраецца імкненне рэалізаваць менавіта дадзены сэнс, "змястоўнай дэмакратыяй".

Такім чынам, змястоўная дэмакратыя – гэта такі стан арганізацыі дзяржавы, пры якім улады пастаўлены ва ўмовы, калі яны не могуць не спрыяць максімальнай рэалізацыі аб'ектыўных інтарэсаў уласнага грамадства, вымушаны кіравацца гэтымі інтарэсамі, быць падпарадкаванымі ім. Усяляк мацаваць адзінства і бяспеку грамадства, даводзіць да ладу ўнутрыграмадскае жыццё, аптымізаваць сувязі з вонкавым светам, з мінулым і будучыняй і такім чынам забяспечваць умовы, пры якіх будзе максімальна поўна раскрывацца стваральны патэнцыял кожнага асобнага грамадзяніна і ўсяго грамадства ў цэлым (а гэта найвышэйшыя гуманістычныя каштоўнасці і чалавека, і грамадства) – вось функцыі сапраўднага дэмакратычнай улады. Незалежнасць сваёй і суседніх дзяржаў, стваральная свабода грамадзянаў – галоўныя ўмовы для раскрыцця такога патэнцыялу.

Але развіццё дэмакратыі – гістарычны працэс. Таму не дзіўна, што яшчэ сёння далёка не ва ўсіх краінах рэальная скіраванасць уладаў адпавядае прадстаўленаму.

Тэму дэмакратыі можна разглядаць найперш як развіццё ідэі. Нават у асяроддзі арыстакратыі можна прасачыць прагрэсіўную эвалюцыю поглядаў: "народ прызначаны для абслугоўвання арыстакратыі", а "ўладары павінны клапаціцца пра свой народ", а "ўлада павінна служыць свайму народу". Аднак, высокая культура, сведамасць і сумленне пакуль застаюцца вельмі ненадзейнымі фактарамі забеспячэння правільнага кіравання. Таму рэальнае развіццё дэмакратыі звязваюць цяпер найперш з практычнымі палітычнымі механізмамі, якія забяспечваюць зваротную сувязь ад народу на ўладу. Сярод іх асноўны – усеагульныя перыядычныя выбары.

Тут таксама назіраецца паступовы прагрэс ад стану імітацыі дэмакратыі, калі існуе адна партыя на чале з мафіёзна-бюракратычнай групоўкай (ці дыктатарам), якая выстаўляе ў час "выбараў" па адным кандыдаце на акругу і прымусова забяспечвае яўку людзей ў час галасавання (напрыклад, былы СССР, сучасны Кітай, Паўночная Карэя), праз стан псеўдадэмакратыі, калі, нягледзячы нібы на шматпартыйнасць, з-за абмежаванняў у час вылучэння і агітацыі, а таксама з-за татальнай фальсіфікацыі пад час галасавання прадстаўнікі апазіцыі не маюць шанцаў быць абранымі (некаторыя постсавецкія краіны, у т.л. цяперашняя РБ), далей праз стан фармальнай дэмакратыі, калі ў адпаведнасці з лозунгам сучасных лібералаў "дэмакратыя – гэта працэдура", выбары ў цэлым адбываюцца свабодна і справядліва, але пры гэтым у іх выніках адлюстроўваюцца толькі суб'ектыўныя інтарэсы розных грамадскіх груп штучна падзеленага грамадства, намоўленага рознымі PR-тэхналагамі (многія заходнія краіны), да стану змястоўнай дэмакратыі.

Для больш дакладнага ўяўлення пра змястоўную дэмакратыю (як найвышэйшы на сёння ўзровень палітычнай арганізацыі грамадства) неабходна ўлічваць некалькі палітыка-ідэалагічных прынцыпаў.

**Па-першае**, з пазіцый змястоўнай дэмакратыі тыповая дзяржава – гэта сістэма, складзеная з трох галоўных кампанентаў: нацыянальнага грамадства, яго этнічнай тэрыторыі і ўлады. Пры гэтым зместам дзяржавы з'яўляецца грамадства (не ўлада, не тэрыторыя з яе натуральнымі багаццямі, а менавіта само грамадства), якое складаецца з розных сацыяльных груп – рабочых, сялян, інтэлігенцыі, прадпрымальнікаў, дзяржаўных службоўцаў, дзяцей і навучэнцаў, персіянераў, хатніх гаспадынь. На гэтым даводзіцца рабіць акцэнт таму, што часта, каб схаваць сапраўдны змест пытання, гавораць "народ, грамадства", а маюць на ўвазе больш вузкую групу альбо, наадварот, выкарыстоўваюць паняцце "дзяржава" там, дзе маецца на ўвазе "грамадства", "народ". Так, напрыклад, часта можна пачуць выразы "праблемы беларускай дзяржавы", "трэба дапамагчы Беларусі". Але ж пры гэтым, як правіла, маецца на ўвазе не праблемы нашай тэрыторыі, звязаныя, напрыклад, з напаўзаннем на яе ледніка з поўначы ці пустыні з поўдня, не праблемы, якія ўзніклі ў беларускай улады (напрыклад, туды ніхто не жадае ісці), а праблемы беларускага грамадства! Чаму ж тады не гаворыцца напрост: "трэба дапамагчы беларускаму народу"?...

*(Працяг у наст. нумары.)*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013







**МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**
**МІНІСТЭРСТВА ІНФАРМАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**
**БІБЛІЯТЭКА БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА**
**УНІВЕРСІТЭТА КУЛЬТУРЫ І МАСТАЦТВАЎ**
**БЕЛАРУСКАЯ БІБЛІЯТЭЧНАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ**
**БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ КНІГАВЫДАЎЦОЎ І КНІГАРАСПАЎСЮДЖВАЛЬНІКАЎ**

праводзяць **7-8** лютага **2006 г.** у г. Мінску (Рэспубліка Беларусь)

Міжнародную навукова-практычную канферэнцыю
**"Беларуская кніга ў кантэксце сусветнай кніжнай культуры"**

*Мэта канферэнцыі - садзейнічаць даследаванню традыцый і навацый беларускага кнігазнаўства, стварэнню навукова-інфармацыйнай прасторы і адукацыйнага асяроддзя, спрыяючых развіццю беларускай навукі пра кнігу.*

*Канферэнцыя прысвячаецца 10-годдзю Аддзела рэдкай кнігі Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў.*

***Асноўныя тэмы для абмеркавання:***
- тэорыя кнігі і метадалогія кнігазнаўства ў даследаваннях айчынных і замежных вучоных; гістарыяграфія беларускага кнігазнаўства;
- гісторыя беларускай кнігі;
- сучасны стан кнігавыдання і кнігараспаўсюджання ў Беларусі, міжнародныя кніжныя сувязі;
- мастацтва беларускай кнігі;
- кніжныя калекцыі ў зборах бібліятэк, музеяў і архіваў Беларусі, беларуская кніга ў фондах бібліятэк Еўропы і Амерыкі; праблемы рэканструкцыі вядомых кнігазбораў Беларусі;
- досвед і праблемы арганізацыі падрыхтоўкі навуковых кадраў і навукова-даследчай работы ў галіне кнігазнаўства.

**Плануецца выданне зборніка матэрыялаў канферэнцыі пасля яе правядзення**
**Асноўныя патрабаванні да дакладаў:** Поўны тэкст даклада (аб'ём да 6 старонак, фармат А4, шрыфт - Times New Roman, памер шрыфту - 14, без інтэрвалаў). Неабходна ўказаць назву даклада, прозвішча, імя, імя па бацьку аўтара / сааўтараў, пасаду, вучоную ступень / званне.

**Фінансавыя ўмовы:**
Рэгістрацыйны ўзнос (у суме эквівалентнай 10 у.а. у беларускіх рублях па курсе Нацыянальнага банка РБ на дзень аплаты) уключае ўдзел у прафесійных мерапрыемствах Канферэнцыі, інфармацыйныя матэрыялы, бэдж удзельніка, удзел у афіцыйных мерапрыемствах і культурнай праграме.
Рабочыя мовы канферэнцыі: беларуская, руская, англійская.
Месца правядзення канферэнцыі:
Рэспубліка Беларусь, 220001 г. Мінск, вул. Рабкораўская, 17,
Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры і мастацтваў. Бібліятэка.
**Кантактныя рэквізіты:**
(+375 17) 222-83-27 Аксана Барысаўна Валодзіна oksana.v@bk.ru.
(8-017) 282-57-03 Тамара Андрэеўна Самайлюк tsam_by@yahoo.com.
Інфармацыя пра канферэнцыю будзе абнаўляцца на web-сайце www.bla.by.

**Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь**
**Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя Максіма Танка**

**Інфармацыйнае паведамленне**
**пра Рэспубліканскую навукова-метадычную канферэнцыю**
**«КРАЯЗНАЎЧАЯ АДУКАЦЫЯ І ГРАМАДЗЯНСКАЕ ВЫХАВАННЕ»**

Кафедра этналогіі і фальклярыстыкі ўстановы адукацыі "Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя Максіма Танка" запрашае педагогаў устаноў адукацыі на Рэспубліканскую навукова-метадычную канферэнцыю
**«КРАЯЗНАЎЧАЯ АДУКАЦЫЯ І ГРАМАДЗЯНСКАЕ ВЫХАВАННЕ»,**
якая адбудзецца 22 красавіка 2006 года.

Мэта канферэнцыі — пошук і выкарыстанне педагагічных сродкаў краязнаўства дзеля фармавання асобы грамадзяніна, адказнага за лёс краіны.

**Праблемнае поле канферэнцыі:**
- гісторыя і тэорыя краязнаўчай адукацыі і грамадзянскага выхавання;
- фальклорна-этнаграфічны аспект краязнаўчага навучання і нацыянальна-патрыятычнага выхавання;
- экалогія і краязнаўства;
- досвед і методыка выкладання інтэграванага курса па раённаму краязнаўству;
- пошукава-даследчая праца і развіццё творчых здольнасцяў навучэнцаў;
- праз любоў да гісторыі і культурнай спадчыны раёна да фармавання патрыёта Айчыны, роднай Бацькаўшчыны;
- фармаванне асобы сучаснага грамадзяніна, выхаванне актыўнай грамадзянскай пазіцыі.

Заяўкі на ўдзел у канферэнцыі, матэрыялы дакладаў і паведамленняў, праграмы інтэграваных курсаў па раённаму краязнаўству дасылаць па адрасу: *220007 Мінск, вул. Магілёўская, 37. п. 341. Кафедра этналогіі і фальклярыстыкі.* Матэрыялы, атрыманыя да 1 сакавіка 2006 г., будуць выдадзены ў зборніку матэрыялаў канферэнцыі.

Патрабаванні да матэрыялаў. Аб'ём дакладаў і паведамленняў - да 3 старонак фармату А4, праграм — да 12. Матэрыялы прадстаўляюцца ў двух асобніках: першы - дыскета, другі - раздрукоўка на паперы.

Першы радок - імя і прозвішча аўтара (выраўніванне па левым краі), пад ім у дужках - назва арганізацыі, установы. Праз радок назва матэрыялаў, набраная прапіснымі літарамі. Праз радок набіраецца асноўны тэкст. Спіс літаратуры ў канцы матэрыялаў. Спасылкі ў дакладах з выкарыстаннем квадратных дужак. Праграмы (тыпу "Мінсказнаўства", "Міншчыназнаўства", "Валожыншчыназнаўства") афармляюцца згодна прынятага парадку. Пасля "Тлумачальнай запіскі" ўключаецца раздзел "Пашпарт раёна" (кароткае энцыклапедычнае апісанне да 2 старонак). Усе матэрыялы набіраюцца ў тэкставым рэдактары MS Word-95 - Word-2002 шрыфтам Times New Roman, вышынёй 12 пунктаў. Палі: левае 3 см, правае - 1 см, верхняе і ніжняе - 2,5 см.

Разам з заяўкай указваюцца звесткі пра ўдзельніка канферэнцыі: прозвішча, імя, імя па бацьку; навуковая ступень, званне (калі маецца); пасада; установа адукацыі (арганізацыя); адрас дамашні і службовы, тэлефоны; тэма даклада ці назва праграмы.

Выдаткі на праезд за кошт камандзіруючай арганізацыі.

**Тэлефон** для даведак:
Кафедра этналогіі і фальклярыстыкі - (017) 2274363.

# 80 гадоў з дня народзінаў Паўла Шубы



**Шуба Павел Паўлавіч** (15.01.1926 г., в. Танежыцы Слуцкага раёна - 4.9.2000 г.), бел. мовазнавец, доктар філалагічных навук (1972), прафесар (1973). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1982). У 1951 г. скончыў Менскі пед. інстытут. З 1955 г.— у Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі, з !961 г.— у БДУ (з 1974 г. загадчык кафедры).

П. П. Шуба — аўтар больш як 300 навуковых работ, самыя значныя з якіх прысвечаны беларускай мове, яе граматыцы і словаўтварэнню: «Прыслоўе ў беларускай мове» (1962), «Дзеяслоў у беларускай мове» (1968), «Уводзіны ў граматыку беларускай мовы» (1969), «Прыназоўнік у беларускай мове» (1971), «Лекцыі па беларускай марфалогіі» (1975) і іншыя.

У працах па граматыцы П. П. Шуба даследуе праблемы марфалогіі, тэорыі часцін мовы, функцыянавання асобных граматычных катэгорый у сучаснай беларускай мове. Пры гэтым ён аналізуе шматлікія прыклады з мовы мастацкай літаратуры і народных гаворак, у збіранні якіх удзельнічаў пры падрыхтоўцы «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы» (1963). П. П. Шуба прапанаваў шэраг новых рашэнняў па сінтаксісе складанага сказа, у прыватнасці па аналізе ўскладненых складаных сінтаксічных канструкцый і заканамернасцей іх арганізацыі.

У працах па словаўтварэнні ўпершыню ў беларусістыцы даследчык дэталёва разглядае канфіксацыю, як адметныя асаблівасці, а конфікс лічыць асобнай функцыянальнай дэрывацыйнай адзінкай, якая матэрыяльна складаецца з 2 або некалькіх афіксаў. Пры аналізе словаўтварэння асобных часцін мовы П. П. Шуба прапанаваў новы аспект: характарыстыкі часцін мовы як базы для ўтварэння слоў іншых часцін мовы.

Сярод яго даследаванняў па граматыцы беларускай і рускай моў, руска-беларускіх моўных узаемадносінах, беларускай тапаніміцы і анамастыцы, методыкі выкладання беларускай і рускай моў у сярэдніх і вышэйшых навучальных установах вылучаюцца вучэбны дапаможнік для студэнтаў «Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія» (1987), сааўтарскія «Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы» (ч. 1—3, 1957—61), «Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (1959), першая акадэмічная «Граматыка беларускай мовы» (т. 1 — 2, 1962—66), «Марфемная дыстрыбуцыя ў беларускай мове: Дзеяслоў» (1967), «Беларуская граматыка» (ч. 1, 1985), падручнікі «Беларуская мова» для 2, 3 і 4-га класаў школ з рускай мовай навучання і іншыя. Ен адзін са складальнікаў «Беларуска-рускага слоўніка» (1962), «Тлумачальнага слоўніка рускай мовы» (1975, 2 выд. 1985), «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» (4 выд., 1990), «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» (т. 1—5, 1977—84).

*К. Германовіч.*


*Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

Шаноўнае спадарства, у час, калі вы не можаце купіць нашу газету ў шапіках "Мінскгарсаюздруку", у вас ёсць магчымасць падпісацца на 4 месяцы (з красавіка па чэрвень). Будзьце з намі, і вы будзеце ў цэнтры падзей, якія адбываюцца ва ўсім беларускамоўным спектры Беларусі і замежжа.

РП - 1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ на газету/часопіс 63865 (індэкс выдання)

НАША СЛОВА (назва выдання)

Колькасць камплектаў 1

На 2006 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | X | X | X | X | | | | | | |

Каму (прозвішча, ініцыялы)
Куды (адрас)
(паштовы індэкс)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА

на газету/часопіс 63865 (індэкс выдання)

НАША СЛОВА (назва выдання)

Кошт: падпіскі 5080 руб.; пераадрасоўкі руб. Колькасць камплектаў 1

На 2006 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | X | X | X | X | | | | | | |

Каму (прозвішча, ініцыялы)
Куды (адрас)
(паштовы індэкс)


© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



*Янка Саламевіч*

# УНІКАЛЬНЫ СВЕТЛЫ ТАЛЕНТ

## "Адчыніся, таямніца часу"

*12 студзеня Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы наладзіў імпрэзу **"Адчыніся, таямніца часу"**, прысвечаную 70–годдзю з дня нараджэння Генадзя Каханоўскага, доктара гістарычных навук, краязнаўца, музейшчыка, літаратуразнаўца.*



*Гасцей віталі навучэнцы Акадэміі музыкі, лаўрэаты Міжнародных конкурсаў **Кацярына Канапелька і Вольга Шышкіна**, якія выступілі з адмысловай музычнай праграмай.*

*Дырэктар музея Янкі Купалы **Сяргей Вечар** расказаў пра творчыя стасункі Генадзя Каханоўскага з музеем Песняра. Вядоўца мерапрыемства **Алена Лабовіч** дала біяграфічную даведку краязнаўцы.*

*У Дом Купалы прыйшлі сябры і паплечнікі Генадзя Каханоўскага: **Адам Мальдзіс, Арсень Ліс, Вячаслаў Рагойша, Сяргей Панізнік, Генрых Далідовіч.** Пра памятныя сустрэчы з Генадзем Аляксандравічам гаварыла дырэктар Менскага абласнога краязнаўчага музея ў Маладзечне **Таісія Лінкевіч**.*



*Генадзь Каханоўскі працаваў у архівах Жытомірскай і Архангельскай абласцей, Карэліі і Арэнбургскай вобласці, Табольска і Казані, Санкт-Пецярбурга, а таксама гістарычным архіве Эстоніі. Дарэчы, менавіта ён першы адшукаў і апублікаваў фота Дамініка Луцэвіча, бацькі Янкі Купалы. На падставе архіўных знаходак, або інфармацыі пра саміх аўтараў Генадзь Аляксандравіч расшыфроўваў псеўданімы і крыптонімы беларускіх навукоўцаў, пісьменнікаў, публіцыстаў, журналістаў. Сам Генадзь Аляксандравіч пісаў пад псеўданімамі Гарбук, Верасень, Г. Гак, Г. Дамашовец, Г. Канстанцінаў.*

*Сваімі ўражаннямі ад сустрэч з Генадзем Каханоўскім падзялілася дырэктар Дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва **Ганна Запартыка**.*

*Самыя цёплыя і шчырыя ўспаміны – гэта ўспаміны сваякоў. Дзеці Генадзя Каханоўскага працягваюць справу бацькі. На вечарыну быў запрошаны яго сын **Аляксандр Каханоўскі**, гісторык, намеснік дэкана гістарычнага факультэта БДУ*

*Невыпадкова, што менавіта музей Янкі Купалы сабраў сяброў Генадзя Каханоўскага. Генадзь Аляксандравіч нарадзіўся на Маладзечаншчыне. Гэта зямля дала жыццё такім значным постацям культуры і літаратуры Беларусі, як Янка Купала, Максім Багдановіч, Рыгор Семашкевіч, тут жылі Браніслаў Тарашкевіч, Ядвігін Ш.*

*Грандыёзнасць абсягаў, тэм, праблем, дакументальная грунтоўнасць прац Генадзя Каханоўскага не перастае здзіўляць, захапляць. Разам з Вячаславам Ляшковічам ён з'яўляецца аўтарам унікальнага "Помніка дарозе" — мемарыяльнага знака, адкрытага ў 1979 г. ў в. Мясата Маладзечанскага раёна. Ён уяўляе сабой валун з імёнамі славутых людзей, якія прайшлі гэтым старадаўнім шляхам, — С. Буднага, В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Цёткі, Я. Купалы, М. Агінскага, С. Манюшкі, М. Гогаля, Т. Шаўчэнкі і інш.*

*У родным Маладзечне з удзелам Генадзя Каханоўскага вуліцам былі нададзены імёны нашых пісьменнікаў, культурных і грамадскіх дзеячаў. У Радашковічах адкрыты мемарыяльны знак у памяць земляка Ядвігіна Ш. (А. Лявіцкага), а ў Люцінцы – Дуніну-Марцінкевічу.*

*Генадзя Каханоўскага з поўным правам можна назваць адной з найбольш значных постацяў беларускага нацыянальнага і культурнага адраджэння.*

***Дзіяна Філіповіч,***
***старшы навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.***

**На здымках:**
1. Удзельнікі імпрэзы.
2. Гучыць музыка.

Пра Генадзя Каханоўскага, свайго сардэчнага сябра (таварышавалі больш за 35 гадоў) я магу расказваць бясконца. Калі ўдасца яшчэ жыць на гэтым свеце, яму магу прысвяціць цэлую кнігу. Ён гэтага заслужыў сваім і працавітым, і пакутным жыццём. Кажуць, што вялікаму таленту Бог дае многа. Так і з Каханоўскім. Гэта унікум у нашым музеязнаўстве, краязнаўстве, гісторыі Бацькаўшчыны і інш.

Нядаўна зноў пагаварыў з ім, перачытваючы яго лісты. Божа мой, што толькі не цікавіла гэтага чалавека. Літаральна ўсё: гісторыя нашых гарадоў, мястэчак, вёсак, археалогія і этнаграфія. 28.11.1978 г. у лісце тлумачыў: *"Пруг – бакавая завершанасць пэўнай рабочай паверхні (карнізік кафліны, канец вытканага ручніка або посцілкі. Самая верхняя частка валеных вырабаў, тое, што больш не касмацілі. Запісаў у в. Чухны Смаргонскага р-на." На рысунку валёнка паказаў, што такое той пруг").* Краязнаўства, калекцыянаванне і мовазнаўства, дакладней дыялекталогія, футбол і тыя, хто нарадзіўся ў 1936-м годзе (тады, калі і ён), псеўданімы, і жыццё, і творчасць Янкі Купалы і Максіма Багдановіча, блізкія і далёкія сваякі Купалы, усё, што датычылася яго роднай Маладзечаншчыны, драўляныя скульптуры Апалірыя Пупкі, даўнейшыя фатаграфіі. Дарогі і нумізматыка, мецэнацтва посцілкі, кераміка, дзіцячыя цацкі, легенды і паданні, геральдыка, успаміны старых людзей, юбілеі вядомых людзей Беларусі і рукапісы, іншыя дакументы і многае-многае іншае.

16.1.1974 г. паведамляў у лісце: *"З Масквы адразу еду ў Рыгу, а пасля ўжо можа і ў Ленінград".*

10.3.1975 г. пісаў: *"У мяне шмат работы, толькі паспявай, часам галоўная стаіць і любуецца" "другарадная".*

4. 12.1980 г. прызнаўся: *"Я сам працую, як вар'ят. Няма спакою. Хутка на работу, таму і спяшаюся. А то будзе іншай работы пад самую дугу".*

Калі я ляжаў у бальніцы пасля інфаркту, суцяшаў 14.12.1990 г.: *"Некалі я ляжаў у гэтых рэанімацыях, а цяпер ты. Не гаруй, трэба ўсім прайсці праз выпрабаванні бальніцы. Дасць Бог хутка папраўішся, дык я ўжо сам буду цябе ўводзіць у рэжым найлепшага стану душы. Выходзячы са свайго вопыту, які меў у 1966 годзе пасля аперацыі на сэрцы.*

*Не забудзь, што ты ў нас галоўны псеўданімшчык* (на сённяшні дзень у мяне расшыфравана больш за 20 тысяч псеўданімаў і крыптанімаў. – С.). *буду табе дапамагаць у гэтым. А каб ты паверыў у мае старанні, шлю табе адзін расшыфраваны псеўданім. **Янка Цьвік – Іван Зіноўевіч Бабіновіч** (1896-1979). Былы настаўнік беларускай школы ў Сібіры. Актыўны аўтар "Чырвонага сейбіта", аўтар апавяданняў) "Чырв. Сейбіт", 1928, № 6-(26-27).*

*Мацуйся, набірайся сіл!*

*Цісну руку! Твой Генадзь Каханоўскі".*

8.11.1991 г. : *"Я ўжо перабраўся ў новы палац навукі, пад новае начальства.* (У 1991-1994 працаваў у Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Скарыны. – Я.С.). *Роўна дзевяць гадоў ад'ездзіў у аддзел фальклору. Цяжка было. Матэрыялы збіраў у архівах, бібліятэках, а апрацоўваў на каленях у электрычцы. Ужо і калені намазоліў, ды і вышмальцаваў. У электрычцы столікаў няма. Калі рускі пісьменнік сядзеў за столікам, а ў мяне на адным калене чарнавік, а на другім чыставік. За гэтыя гады працы наездзіў 369 тыс. км. Але нічога... я ногі прымарозіў. Абутак быў вільготны, дык змёрзся на нагах, проста ў электрычцы. А заўтра трэба на вяселле – прыёмны мой сын жэніцца, Валодзя Квяско. Ужо адслужыў. Папрацаваў на будоўлях, а цяпер пайшоў у ваенізаваную ахову на вакзале. Суправаджае таварнякі. Суткі працуе, а трое дома. І за ўсё гэта плацяць 200 р. і льготы праезду. Практычна суткі спіць у цяплушцы, а трое адыходзіць ад сну. І ніякіх планаў. Яшчэ трэба мне траіх ажаніць і выдаць замуж".*

Яго ўсе любілі. Гэтага высокаадукаванага, сціплага, інтэлігентнага сумленнага, вельмі душэўнага чалавека. Мае энцыклапедычныя калегі-жанчыны, пасля таго, як Генадзь заходзіў да нас у рэдакцыю, заўсёды падкрэслівалі, што цяпер, на жаль, мала такіх далікатных людзей. Такіх аўтараў, якія згодны, калі трэба, дапрацоўваць матэрыял бясконца, дапаўняць, удакладняць, удасканальваць.

Апошнія гады ён не заходзіў да мяне з пустымі рукамі. Ведаючы, што ўвесь час дапрацоўваю свой слоўнік псеўданімаў, ён часта прыносіў "гасцінцы" – расшыфраваныя псеўданімы і крыптонімы нашых навукоўцаў, пісьменнікаў, публіцыстаў, журналістаў, прычым почасту расшыфраваныя на падставе архіўных знаходак (у архівах працаваць ён умеў і любіў) або інфармацыі саміх аўтараў, што вельмі каштоўна. *"Янка, -* любіў ён гаварыць, калі давеўваўся, што я раблю нешта, як ён лічыў, пабочнае, - *кідай ты ўсё гэта часовае і працуй толькі над сваім слоўнікам, акрамя цябе гэтага пакуль ніхто не зробіць, а пасля цябе толькі гэта і застанецца".* І падаваў нейкі нявядомы мне псеўданім. Новае выданне "Слоўніка беларускіх псеўданімаў і крыптонімаў" прысвячу светлай памяці Генадзя Каханоўскага – сябра, якога я шчыра любіў і люблю, таленавітага вучонага, доктара гістарычных навук, шчырага рупліўца на роднай беларускай ніве.

Грандыёзнасць абсягаў, тэм, праблем, дакументальная грунтоўнасць прац Г.Каханоўскага не перастае здзіўляць, захапляць. Колькі ў іх новага, адкапанага даследчыкам матэрыялу! А фактычная ўгрунтаванасць – моцны падмурак для навуковых даследаванняў. Факты – жывая кроў навукі. Без новых свежых фактаў яна будзе абяскроўленай, будзе задыхацца, таптацца на месцы. Каханоўскі менавіта часта даваў свежыя глыткі паветра беларускай гуманітарнай навуцы праз адшуканыя ім новыя, да яго невядомыя чытачу факты, уведзеныя ім у навуковы абыходак. Ён апантана даследаваў пытанні гісторыі, археалогіі, краязнаўства, музейнай справы, праблем аховы помнікаў гісторыі і культуры на Беларусі, іншыя актуальныя навуковыя праблемы. Можна толькі здзіўляцца, як ён спраўляўся пісаць яшчэ і ўспаміны-мемуары (гл. "Крокі майго жыцця". "Куфэрак Віленшчыны", 2000, № 1 і 2.)

У яго даследаваннях зайздросная колькасць спасылак на архівы. Ды на якія! Не толькі беларускія, а і на такія, ім абследаваныя, як архіў Жытомірскай вобласці (матэрыялы пра Я. Баршчэўскага), Архангельскай вобласці (Р. Друцкі-Падбярэзкі), гістарычны архіў Эстоніі (браты Гжымалоўскія і інш.), архівы Карэліі і Арэнбургскай вобласці (Э. Жалігоўскі), Табольска і Казані (дакументы пра К. Кастаравіцкага, бацьку К. Каганца), Санкт-Пецярбурга (новае пра В.І. Дуніна-Марцінкевіча) і г.д.

А колькі новага з жыцця і творчасці нашаніўцаў і заходнебеларускіх аўтараў сабраў Каханоўскі, ездзячы і ходзячы па Беларусі, рупячыся, каб не прапала тое, што жыло ў памяці родных, блізкіх, знаёмых працаўнікоў на ніве нашай літаратуры, культуры, асветы, тое, што, здаецца, у многіх было пад рукою, але што да Г. Каханоўскага не было занатавана, тым больш абнародавана.

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



*Янка Саламевіч*

# УНІКАЛЬНЫ СВЕТЛЫ ТАЛЕНТ



***КАХАНОЎСКІ*** *Генадзь Аляксандравіч (8.1.1936, в. Дамашы Маладзечанскага р-на — 15.1.1994), беларускі гісторык, археолаг, краязнавец, фалькларыст, літаратуразнавец. Доктар гістарычных навук (1992). Скончыў Маскоўскі педагагічны інстытут (1963). З 1964 супрацоўнік, намеснік дырэктара, дырэктар Менскага абласнога краязнаўчага музея ў Маладзечне, з 1981 старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі, з 1991 старшы навуковы супрацоўнік, загадчык аддзела Нацыянальнага навук.-асв. цэнтра імя Ф.Скарыны. Ініцыятар стварэння і першы старшыня Беларускага краязнаўчага таварыства (1989). Даследаваў гісторыю археалогіі, музейнай справы, краязнаўства, пытанні аховы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Выступаў у друку пад псеўданімамі Габрук, Верасень, Г.Гак. Аўтар літ.-краязнаўчых нарысаў пра Я.Купалу, М.Багдановіча, Я.Баршчэўскага, А.Гурыновіча, Ф.Тап-чэўскага, М.Чарота, гіст.-эканам. нарысаў «Вілейка» (1974), «Маладзечна» (1988) і інш. Адзін з аўтараў помніка «Дарозе» ў в. Мясата на Маладзечаншчыне.*

Адкрыйце кнігу яго гісторыка-літаратурных нарысаў (да яе я звяртаюся найчасцей) "Адчыніся, таямніца часу" (1984). Знойдзеце там упершыню ім адшуканыя факты пра Старога Уласа (У.П. Сівога-Сівіцкага), Л. Лобіка, Язэпа Шпэта, І. Піліпава) Я. Нялепку, Міхалку Петрукова, М.П. Лотыша, з Івянца, Юзю Шчупака Я. Я. Сайкоўскага, Янку Светлячка, І.Я. Гаеўскага, Міколу Мокрага, А.М. Сухога, Якіма Пярэчку, Ф.Д. Манцэвіча, П. Пяршайскага, П. М. Шаўлоўскага, Р. Філосафа, Р.К. Чарнушэвіча) і інш.

У гэтай кнізе прачытаеце пра беларускія матэрыялы ў музеях і архівах Масквы, Львова, Вільні і інш., пра адкрытыя Каханоўскім публіцыстычныя творы "Старая прысказка" (1887) і "Царская гаспадарка" 1905 г., нарысы пра Я. Купалу, М. Чарота, Ф. Тапчэўскага, А, Гурыновіча, беларускую граматыку 1875 г. Платона Ціхановіча з Луніна. Пра дзядзьку В. І. Дуніна-Марцінкевіча С.І. Богуша-Сестранцэвіча, літаратара, вучонага, магілёўскага архіепіскапа і шмат іншых цікавых, нават дэтэктыўна-захапляльных гісторый.

Каханоўскі першы адшукаў і апублікаваў фота Дамініка Ануфрыевіча Луцэвіча, бацькі Янкі Купалы, драматурга, аўтара п'есы "Не розумам сцяміў, а сэрцам" (1909) Касьяна Вясёлага (В. Я. Аўдзея, 1886-1916), нашаніўцаў Я. Шпэта (1891-1955) і М. Петрукова (1880?-1947), гісторыка і асветніка Р. Кулакоўскага (1800-1870), прадзеда Зоські Верас і інш.

Багаццем крыніцазнаўчага матэрыялу па праблемах развіцця беларускай археалогіі і краязнаўства, глыбокім аналізам укладу ў навуку З. Даленгі Хадакоўскага, Т. Нарбута, Я. і К. Тышкевічаў, А. Кіркора, У. Сыракомлі і інш, такіх арганізацый, як Віленскі музей старажытнасцяў, зачынены мураўёўцамі, Віленская археалагічная камісія, прыватнаўласніцкія музеі М.П. Румянцава ў Гомелі, Г.К. Ябланоўскай у маёнтку Сямятычы Гарадзенскай губерні, полацкага музея пры езуіцкай калегіі (з 1812 г. – акадэміі), лагойскагамузея братоў Тышкевічаў, шчорсаўскага музея і бібліятэкі Храптовічаў, музея А. Гюнтара ў Дабраўлянах (цяпер Смаргонскі раён), Пастаўскага музея К. Тызенгаўза, калекцыі графаў Чапскіх у Станькаве пад Менскам, збраёўні ў двары Пуслоўскіх у Песках Слонімскага павета і мн. інш. вылучаецца наватарская манаграфія Г. Каханоўскага "Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў ХУІ-ХІХ стст." (1984).

Манаграфія Г.А. Каханоўскага "Беларуская фалькларыстыка: Эпоха феадалізму" (1989, два раздзелы напісала Л.Малаш і два Каханоўскі з К.Цвіркам) – грунтоўны ўклад вучонага ў гісторыю збірання і даследавання беларускай вуснапаэтычнай творчасці ХУІ-ХІХ стст., пачынаючы ад Яна Ласіцкага (каля 1534 - пасля 1599), які першы апісаў на латыні беларускае вяселле, запісаў нашы пахавальныя галашэнні, С. Рысінскага (каля 1570-1625), аўтара зборніка 1800 беларускіх прыказак, выдадзенага ў Любчы ў 1618 г. да Я. Баршчэўскага, П. Шпілеўскага, Р. Зянькевіча, А. Рыпінскага і інш. фалькларыстаў і этнографаў, аналізу дзейнасці розных навуковых арганізацый таго часу, зробленага на падставе архіўных крыніц і новага паглыбленага прачытання, як вядомых, так і забытых прац пра беларускую матэрыяльную і духоўную культуру.

Як дасведчаны музейшчык (у 1964-1981 гг, ён навуковы супрацоўнік, намеснік дырэктара па навуковай рабоце, дырэктар Менскага абласнога краязнаўчага музея ў Маладзечне) Г. Каханоўскі выдатна ведаў, што такое краязнаўчая работа, высока цаніў працу мясцовых падзвіжнікаў, якія, як і ён, рупілі і рупяцца, каб зберагчы мясцовыя помнікі і памяткі гісторыі і культуры, што адыгрываюць неацэнную ролю ў патрыятычным выхаванні, у самавыхаванні любові да роднага краю, роднай гісторыі. Таму так нястомна, упарта стараўся ён, каб аднавіць, арганізаваць рэспубліканскае краязнаўчае таварыства. Ведаю, колькі нерваў, колькі хваляванняў перажыў Генадзь, калі не ўдавалася прабіць глухую сцяну чыноўніцкага неразумення і тупасці. У 1989 г. Каханоўскі стаў старшынём Беларускага краязнаўчага таварыства. На жаль, не здзейснілася яго мара адрадзіць часопіс "Наш край", які выходзіў з 1925 г. як орган Цэнтральнага бюро краязнаўства.

На тое, каб нашы людзі ведалі сваю мінуўшчыну, шанавалі сваіх слаўных сыноў і дачок, свае святыні і помнікі, Каханоўскі паклаў шмат сіл і старанняў, таму столькі высілкаў прыклаў ён, каб знайсці тую мясціну, дзе летам 1911 года адпачываў Максім Багдановіч. Ёю аказалася Ракуцёўшчына. Генадзь Каханоўскі адкрыў яе грамадскасці яшчэ недзе ў 1965-1966 гг. Па яго ініцыятыве ў чэрвені 1977 г. тут устаноўлены мемарыяльны знак са словамі: *"У вёсцы Ракуцёўшчына ў 1911 г. жыў і працаваў вядомы беларускі паэт Максім Багдановіч".* 24 красавіка 1981 г. беларускія пісьменнікі заклалі тут "Максімаў сад", а ў 1985 г. каля крыніцы пастаўлены памятны камень. На святах паэзіі, якія ў Ракуцёўшчыне цяпер адбываюцца штогод, трэба заўсёды з удзячнасцю ўспамінаць імя Генадзя Аляксандравіча Каханоўскага Ён напісаў пра М. Багдановіча і Ракуцёўшчыну дзве кніжкі – "У родным краі" (1983 і "А сэрца ўсё імкне да бацькаўскага краю... : З біяграфіі М. Багдановіча" (1991).

Разам з В. Ляшковічам Г. Каханоўскі з'яўляецца аўтарам унікальнага "Помніка дарозе" – мемарыяльнага знака, адкрытага ў 1979 г. у вёсцы Мясата Маладзечанскага раёна. Каля шашы на Вільню бліз вёскі Мясата ўстаноўлены валун у гонар славутых людзей, якія прайшлі гэтым старадаўнім шляхам (іх імёны на камені) С. Буднага, В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Цёткі, Янкі Купалы. М. Агінскага, С. Манюшкі. М. Гогаля, Т. Шаўчэнкі і інш. Вынікі клопатаў Г. Каханоўскага засталіся і ў родным яго Маладзечне, дзе не без яго ўдзелу імёны нашых пісьменнікаў, грамадскіх і культурных дзеячаў былі нададзены вуліцам, замест тых, хто да горада не меў ніякіх адносін, і ў Радашковічах, дзе адкрыты мемарыяльны знак у памяць земляка Ядвігіна Ш. (А. І. Лявіцкага), і ў Люцінцы, дзе жыў Дунін-Марцінкевіч, і інш.

З 1981 г. Г. Каханоўскі быў навуковым супрацоўнікам інстытута мастацтвазанаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі. Больш за дзевяць гадоў дзень у дзень, устаўшы ў пяць гадзін раніцы, ехаў ён электрычкаю з Маладзечна ў Менск. А пасля яшчэ жартаваў, што амаль усе яго працы гэтага перыяду напісаны ў электрычцы на калене. Нішто сабе стол вучонага! Дзе яшчэ знойдзеш такія ўмовы працы для таленавітага навукоўца?!

Акрамя названых, ён напісаў і выдаў гістарычна-эканамічныя нарысы "Маладзечна" (1971, 2-е выд. 1988), "Вілейка" (1974), даследаванне пра невядомыя факты з жыцця і творчасці Я. Купалы "На запаветнай зямлі! (1974) "Мінскі абласны краязнаўчы музей у г. Маладзечне" (1981, у сааўтарстве), "Повязь часоў" (1985), "Прадвесне навукі" (1990), "Руплівец нашай старасветчыны: Яўстах Тышкевіч" (1991, у сааааўтарстве з сынам Аляксандрам, дарэчы, гісторыкам). Апублікаваў больш за паўтысячы артыкулаў. Ён аўтар шматлікіх артыкулаў у энцыклапедыях "Янка Купала", "Этнаграфія Беларусі", "Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі", "Археалогія і нумізматыка Беларусі", "Энцыклапедыя гісторыі Беларусі". Нават у энцыклапедыю "Беларуская мова" сам прапанаваў артыкул "Краязнаўства і мова" – тэму, якую за апошнія 60-70 гадоў ніхто не спрабаваў даследаваць. Ён адважыўся. Кожны, хто пісаў для энцыклапедыі, ведае, што для таго, каб напісаць туды нават меленькі артыкульчык, трэба шмат ведаць, паравярнуць горы літаратуры, архіўных дакументаў, сто разоў праверыць і пераправерыць розныя думкі, факты, меркаванні. Генадзь Каханоўскі рабіў гэта настойліва, бясстрашна, не шкадуючы сябе. Ведаў – гэта трэба для любай Беларусі.

Абсяг навуковых зацікаўленняў Г. Каханоўскага сапраўды бязмежны. Яго, праўда, цікавіла найбольш і найперш тое, што было звязана непасрэдна з беларушчынай. І тут ён зрабіў столькі, што ажно не верыцца, як мог адзін чалавек. Не асілак здароўем, хоць і апантаны, захоплены любімай ідэяй, любімай справай да самазабыцця, столькі ўзняць, столькі змагчы. А ён жа яшчэ захапляўся археалогіяй. Удзельнічаў у археалагічных экспедыцыях на Каўказе, у Крыме, на Меншчыне. Ён быў і вялікім кніжнікам, меў велізарную бібліятэку. Знаходзіў рарытэты таксама па ўсёй Беларусі і за яе межамі. Перыядычныя выданні, рэдкія кнігі набываў для музея ў Маладзечне. Таму сярод яго экспанатаў шмат цікавых рэчаў. Вельмі любіў сам і намаўляў іншых збіраць звесткі старэйшага пакалення пра людзей, найперш пісьменнікаў, мастакоў, дзеячаў культуры, увогуле цікавых неардынарных асоб. Не прамінаў старыя альбомы, фатаграфіі, аўтэнтычныя дакументы, календары. Заахвочваў пісаць успаміны іншых, сам рабіў запісы ад людзей дасведчаных, вопытных, знаўцаў беларускай даўніны і мінуўшчыны і стараўся пра кожны цікавы факт, кожнага чалавека расказаць у друку, пакінуць здабытае для нашчадкаў, для гісторыі. Колькі іменаў людзей, звязаных з гісторыяй і культурай Беларусі, ён вярнуў з небыцця!

"Мецэнацтва на Беларусі". Хто за такую тэму ў нас браўся!? А Каханоўскі на адной з навуковых канферэнцый прачытаў такі даклад. Ды ўсяго і не пералічыш!

Не кажу пра яго ўжо як прыкладнага сем'яніна, гаспадара свае хаты, любімага бацькі, клапатлівага мужа, які не раз гаварыў пра сваю цудоўную Зінаіду Пятроўну: "Мая Зіна вельмі добры чалавек". Як бацькі, гадавалі апекавалі Генадзь і Зіна сірату. Ці ж не гавораць гэты высакародна-гуманістычны ўчынак пра бязмежную дабрыню, міласэрнасць, альтруізм гэтых сумленных, чалавечных, душэўна шчодрых людзей!

Генадзя Каханоўскага любілі ўсе. Было за што. Ёсць за што. Гонар і слава Яму, слаўнаму, адданаму сыну нашага народа, руплівцу, беззапаветнаму шчыруну на полі роднай культуры, гісторыі, літаратуры, краязнаўства, музейнай справы, фалькларыстыкі і безлічы іншых дзялянак! І як балюча і горка, што ён так рана згарэў! Няхай светлы воблік незабыўнага Генадзя Каханоўскага, 8 студзеня якому споўнілася б 70, натхняе нас на працу ў імя і гонар нашай Бацькаўшчыны, якую ён так горача любіў, у імя якой здзейсніў свой жыццёвы, свой навуковы вычын як патрыёт, шчыры беларус, грамадзянін!

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



*Арсень Ліс*

# Браніслаў Тарашкевіч – перакладчык "Іліяды" Гамера

Браніслаў Тарашкевіч вядомы перадусім як аўтар першай "Беларускай граматыкі", першаўпарадкавальнік граматычных норм і правапісу беларускай літаратурнай мовы. Яго "Беларуская граматыка для школ", выдадзеная ў Вільні ў 1918 годзе, вытрымала аж сем выданняў.

Апошні раз у сваім аўтэнтычным абліччы, факсімільна яна была ўзноўлена ў Менску ў 1991 годзе. Практычна на працягу ўсяго мінулага стагоддзя створаныя Тарашкевічам беларуская лінгвістычная тэрміналогія, атрыбутыўныя граматычныя азначэнні не падлеглі прынцыповым зменам.

Яшчэ ў 20-я гады акадэмік Некрашэвіч, ацэньваючы зробленае Тарашкевічам, пісаў, што яго "Беларуская граматыка" ***"заснавала цэлую эру ў гісторыі нашай граматыкі і правапісу"***.

Высока ацанілі створанае Браніславам Тарашкевічам у беларускім мовазнаўстве сучасныя лінгвісты Яновіч, Крамко, Германовіч, прафесары Леў Шакун і Фёдар Янкоўскі.

Вобраз Тарашкевіча-палітыка, стойкага барацьбіта, лідара стотысячнай Беларускай сялянска-рабочай грамады, постаці трагічнай у пошуках свабоды народа паўстае са старонак кніг. У тым ліку манаграфіі польскага гісторыка Аляксандры Бергман, а таксама дакументальнага фільма рэжысёра Лысятава "Зямля Тарашкевіча". Менш вядомыя шырэйшай грамадскасці такія аспекты дзейнасці Тарашкевіча, як яго літаратурная праца.

А ён быў не толькі філолаг, але і таленавіты публіцыст-палеміст, выдатны прамоўца, чаго варты адны яго выступленні ў сойме Польшчы. Засведчыў пра сябе Тарашкевіч і як літаратуразнавец ды перакладчык. Дастаткова сказаць, што яму належаць беларускамоўныя тэксты двух шэдэўраў сусветнай літаратурнай класікі – "Іліяды" Гамера і паэмы "Пан Тадэвуш" Адама Міцкевіча. Абодва названыя творы перакладзены Тарашкевічам падчас знаходжання яго ў польскіх астрогах. Пераклад Гамеравай "Іліяды" зроблены ў асноўным у турме горада Грудзёнц, а "Пана Тадэвуша" – у астрозе Гародні, *"горадзе старажытным і прыгожым"*, паводле слоў Тарашкевіча ў лісце да адваката Дурача ў Варшаву. Да перакладу класічнага эпасу старадаўняй Грэцыі Тарашкевіч падступаўся здаўна, здалёк. Яшчэ ў Віленскай гімназіі разам з калегам Міраславам Арцюшэўскім захапіліся старажытнай Эладай і старанна студыявалі яе мову, за што ў гімназійнай грамадзе атрымалі мянушку "эліны".

На гістарычна-філалагічным факультэце Пецярбургскага універсітэта, дзе на пачатку XX ст. былі засяроджаны навуковыя педагагічныя кадры, якія па сваім інтэлектуальным патэнцыяле не ўступалі прафесуры старых універсітэцкіх асяродкаў заходняй Еўропы, Тарашкевіч вывучаў "Іліяду" на спецыяльным семінары пад кіраўніцтвам літаратуразнаўца Зялінскага.

*Муза, спявай мне пра гнеў Ахілеса, Пелеева сына,*
*Гібельны гнеў, прычыніўшы ахейцам бязмернае гора,*
*Многа бо душаў адважных герояў паслаў да Аіда,*
*Самых жа іх пакідаў на здабычу сабакам і*
*Птушкам драпежным дзярлівым – а ўсенька па*
*Божай Зевесавай волі – з часу таго, як з сабой разыйшліся*
*У злосці заўзятай боскі Ахіл і дружын валадар*
*Агамемнан Атрэіч.*

Першыя дзве песні "Іліяды" Тарашкевіч пераклаў у бытнасці сваю настаўнікам ужо беларускай Віленскай гімназіі і вясной 1922 г. апублікаваў іх у газеце "Беларускі звон".

А з лета 1922-га года жыццё, час для Тарашкевіча пачалі набываць імклівы тэмп.

Перадвыбарчы марафон у сойм, у выніку якога беларусам сумесна з прадстаўнікамі іншых нацыянальных меншасцяў удалося здабыць 14 дэпутацкіх месцаў у вышэйшым прадстаўніча-заканадаўчым органе Польскай дзяржавы. Вострая, неадступная барацьба на парламенцкай арэне, у сойме за аграрную рэформу на карысць сялян, за беларускае школьніцтва, амністыю для палітзняволеных. Выступленні беларусіх паслоў, дэпутатаў сойма на мітынгах у гарадах і мястэчках Заходняй Беларусі. Нарэшце, у сярэдзіне 20-х гадоў узлёт сацыяльнай і нацыянальнай свядомасці жыхарства Заходняй Беларусі, высокая хваля грамадоўскага руху. За нейкіх год паўстае стотысячная партыя заходнебеларускага сялянства і інтэлігенцыі, кіраваная групай паслоў у сойм на чале з Тарашкевічам. Фенаменальны рост Беларускай сялянска-работніцкай грамады дзяржаўнымі структурамі, іх сацыяльнай апорай былі ўспрыняты як выклік самому палітычнаму рэжыму Польшчы. Гэта было перабольшванне. Але пэўная пагроза не столькі ўстоям, колькі курсу



*Браніслаў Тарашкевіч*

рэжыму была, хоць Грамада і не рыхтавала паўстання, як гэта ён інкрымінавалася санацыйнай уладай.

Урад Пілсудскга-Мейштовіча, з яго ўстаноўкамі на каланізацыю, паланізацыю заходнебеларускіх зямель, заспяшаўся расправіцца з Грамадой, абрынуўшыся на яе з усёй сілай дзяржаўнай машыны.

Лідары БСР грамады і яе актыў, цэнтральны сакратарыят, кіраўнікі павятовага звяна аказаліся на лаве падсудных, атрымалі ад 4 да 12 год цяжкага катаржнага рэжыму і былі раскіданы па турмах усёй Польшчы. Тарашкевіч да суда быў утрымліваны ў строгай турэмнай ізаляцыі ў Вронках, на самай заходняй граніцы краіны, а пазней даўжэйшы час, два гады, адбываў пакаранне ў астрозе Грудзёнца.

І як парадаксальна можа здацца на першы погляд, турэмныя гады Тарашкевіча аказаліся надзвычай плённымі творча. Перш-наперш ён грунтоўна пераапрацаваў "Беларускую граматыку", прыстасаваўшы яе для вывучэння роднай мовы, выгнанай уладамі са школы, да студыявання яе самастойна, у хатніх умовах. Рукапіс быў перададзены на волю і надрукаваны ў 1929 годзе як пятае выданне. Адгароджаны турэмнымі мурамі ад свету, бурлівага палітычнага жыцця, якім жыў апошнія гады, цяпер змог вярнуцца і да даўнейшых літаратурных задум. Так сказаць, постскрыптум склаў гімн "Беларускай грамады ***"Сто тысяч нас было сяброў"***. Папрасіў жонку прывезці арыгінал "Іліяды". Гэтая невялікага фармату з чорным бісерам вуглаватых літар на вокладцы кніжыца таіла для яго магічна-прыцягальную сілу. У цішыню турэмнай камеры-адзіночкі ўступалі, урываліся са сваім болем, адчаем, прагай перамогі, помсты, увасобленыя у эпасе героі Траянскай вайны Ахілес і Гектар, прасіў-маліў апошняга сына Гектара старэнькі бацька Прыям не ўступаць у двубой з грозным ахейскім асілкам Ахілам: сыйсці-схінуцца за гарадскія сцены:

*Урэшце падумай і злітуйся хоць нада мной,*
*Бацькам няшчасным,*
*Якога змушае Зевес на парозе магілы*
*Вынесці столькі згрызот і пабачыці гэтулькі гора:*
*Як забіваюць сыноў і як цягнуць дачок у няволю,*
*Апусташаюць каморыі і дзетак маленькіх, нявінных,*
*Вобзем кідаюць і б'юць, азвярэўшы у лютым змаганні;*

*Сам я апошні паду і мяне на парозе сабакі*
*Прагныя ўраз разарвуць, калі нехта вастрэннаю меддзю*
*Тне ці прапора мяне, з суставаў мне выжане духа;*
*Тыя сабакі прыдзверныя, што пры бяседах карміў іх,*
*Піць будуць кроў маю скваппа, а потым, напіўшыся,*
*Лягуць*
*З сумнай душоў у сенях. Прыгожа ляжаць маладому,*
*Нават забітаму вострaю меддзю ў баі-ваяванні,*
*Хораша ўсё ў яго, на што толькі вачмі не паглянеш,*
*Але сіваю калі галаву, бараду і срамоцце*
*У мужа забітага злыя сабакі крамсаюць і бэсцяць,*
*То ўжо за гэтае горай і ў марных людзей не бывае –*
*Гэтак стары гаварыў. І, схапіўшы рукамі за голаў,*
*Рваў валасы, але просьбамі Гектара не перайначаў.*

Бясстрашны Гектар, не ўступіўшы просьбам літанням бацькі і маці, выходзіць на смяртэльны двубой з грэцкім героем-волатам і гіне ад яго рук. Пераможца прывязвае цела забітага героя траянцаў да калясніцы і мчыць да сваіх караблёў пры беразе мора:

*На калясніцу ўскочыў і, слаўную зброю падняўшы,*
*Коней бічом сцебануў, а яны паляцелі ахвотна.*
*Хмараю пыл падымаўся над цягнутым целам*
*І галава, перш хараством задзіўляўшая, зараз біласа ў пыле,*
*Чорнымі кудрамі след замятаючы, быццам Зевес*
*Ворагам выдаў яе на паругу у роднай зямельцы.*

Падобны да сэрцабіцця рытм-гул гекзаметру клікаў у радок патрэбнае на месцы старагрэцкага жывое беларускае слова, вобраз.

Яны прыходзілі да вязьня Тарашкевіча пад мерныя крокі ў камеры, усплывалі ў памяці з роднай падвіленскай гаворкі, з кніг, летапісаў, з вуснаў маці.. Грэцкі эпічны арыгінал натуральна і глыбока праяўляўся перакладчыкам у беларускамоўным гучанні. Чалавечая трагедыя, аддаленая ад нас у часе без малога на чатыры тысячагоддзі, напісанне "Іліяды" адносяць да 8-7 стагоддзя да нашай эры, паўставала рэльефна, у пластычных вобразах, перажываная, пэўна, іначай, але не такая ўжо чужая, незразумелая. Вось карціна аплакваня героя:

*Так галава зняважалася ў пыле. Бачыла маці*
*Дый сабе рваць валасы і, багатую кінуўшы хустку*
*Прэч ад сябе, галасіла і плакала страшна па сыне.*
*Загаласіў мілы бацька Прыям, галасіла й дружына.*
*Плакалі і галасілі ў горадзе ўсе грамадзяне,*
*І выдавалася быццам ахоплены ўсенькі пажарам*
*Быў Іліён і агонь знішчажаў аж дазвання*
*Узгорысты горад*

Асобна апеты ў эпасе плач жонкі Гектара Андрамахі. Гора, што напаткала яе і родных, заспела раптам аўдавелую за кроснамі:

*...А як прыйшла да сябе, й схамянуліся грудзі дыханнем,*
*Так галасіла і плакала паміж Траян Андрамаха:*
*"Горкае гора мне, Гектар! Для долі няшчаснай абое*
*Мы нарадзіліся: ты ў Прыямавым доме у Троі,*
*Я ж там у Фівах, пад Плакам, лілістай гарою*
*У Гетыёна доме, што гадаваў мяне, бедную, змалку,*
*Сам ён смяротны, бяздольную. Лепей было б не радзіцца!*
*Ты ўжо адходзіш цяпер ад мяне ў бяздонне к Аіду*
*І пакідаеш мяне ў страшэннейшым жалі, у горы*
*Тут удавою ў паkoях. Яшчэ і сынок наш маленькі,*
*Мы і яго нардзілі на гора.*
*Ні ты абаронай*
*Сыну не будзеш, ні ён жа тваёю надзеяй.*
*Каб і застаўся жывы ад вайны многаслёзнай, ахейскай,*
*Бо заўсягды яго гора і праца, і клопат чакаюць.*
*Межы суседзі яму заараць і яго ніву захопяць.*
*У дзень бо сіроцтва свайго і прыяцеляў траціць сірота.*

Засталося сказаць некалькі слоў пра лёс беларускага перакладу "Іліяды". Ён падзяліў чалавечую долю беларускага літаратара і палітыка акадэміка Тарашкевіча. У верасні 1933 года ў парадку абмену палітзняволенымі паміж урадам Польшчы і СССР Тарашкевіч быў выбаўлены з польскай турмы і адразу накіраваны ў Маскву ў распараджэнне Камінтэрна. Паралельна з работай у яго структурах дапрацоўваў, шліфаваў беларускі пераклад "Іліяды" і ў 1935 годзе ў сакавіцкай кніжцы часопіса "Полымя" апублікаваў 22-ую песню яе, прадпасланую перакладзенаму тэксту паэтычны, змястоўны літаратуразнаўчы эцюд.

Дзяржаўнае выдавецтва заключыла з Тарашкевічам дамову на выданне беларускамоўнай версіі "Іліяды" і выплаціла аўтару перакладу аванс. У траўні 1937 года ўжо была карэктура будучай кнігі, як славуты пралітык і перакладчык нечакана стаў ахвярай масавых рэпрэсій, а 29 лістапада 1938 года быў расстраляны ў Менску. Вядомы сучасны беларускі гісторык, прафесар Міхнюк, лічыць, што беларускамоўны варыянт "Іліяды" не страчаны назаўсёды. Рукапіс яго ці карэктурны адбітак можа, павінен быць дзесь у архіўных сховішчах у Маскве. Пашанцуе настойлівым і ўдачлівым даследчыкам, а перадусім беларускай культуры, светлай памяці Тарашкевічу, чым інтэлектуальным намаганнем высокі паэтычны плён Элады быў перанесены на беларускую культурную ніву.

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013







# Ліда беларуская










У Лідзе, як і ў астатняй Беларусі, двухмоўе. Вельмі моцныя пазіцыі рускай мовы, але нельга сказаць, каб беларуская мова была тут у заняпадзе і занядбанні. То тут, то там з'яўляюцца новыя парасткі беларушчыны.

Незадоўга перад Новым годам з'явілася на лідскай лазні новае маляўнічае пано "Лазня".

Летам на лідскай кнігарні з'явілася навая шыльда "Книжный мир", што вельмі засмуціла, бо заўсёды там быў "Кніжны свет", але вось адбылося нутраное перааздабленне кнігарні і на душы пасвятлела. Унутры кнігарню цалкам афармілі па-беларуску.

Ужываюць беларускую мову і некаторыя малыя прадпрыемствы. Нядаўна ў горадзе з'явіліся аўтамабілі МП "Рытм", цалкам распісаныя па-беларуску.

***Яраслаў Грынкевіч.***

***На здымках:*** *1. Лідская лазня; 2. У лідскай кнігарні; 3. Машына МП "Рытм" з надпісам* ***"Рамонтна-будаўнічыя і дахавыя работы".***

# "Надлом" у новай рэдакцыі

Раман пісьменніка Васіля Якавенкі "Надлом" - эпічнае палатно, у якім раскрываецца спадчына і перакідваецца мост з далёкай мінуўшчыны ў нашыя дні.

Твор бескампрамісна шчыры, у пэўнай меры наватарскі. Ён прысвечаны барацьбе за волю і нацыянальнае самасцвярджэнне беларусаў у XX стагоддзі. Ужо ў першым сваім выданні ён выклікаў жывы водгук у чытачоў, набыў добры рэзананс у грамадстве. Сёння яго больш не трэба рэкламаваць.

Прайшло амаль тры гады з моманту выдання твора ў серыі "Беларускі гістарычны раман" выдавецтва "Беллітфонд". За гэты час аўтар падрыхтаваў да друку паноўленую і дапоўненую рэдакцыю, дзе атрымалі далейшае развіццё і акрэсленасць характары дзейных асоб. У кантэксце эпікі з'явіліся батальныя сцэны і новыя гістарычныя персанажы - савецкія і нямецкія генералы, сын Сталіна Якаў Джугашвілі, Мікалай Шчорс, Ларыса Геніюш, Барыс Кіт, мотальскія пасляваенныя "міліянеры" (старшыні калгаса) і іншыя - кожны ў свaім асяроддзі і сваім часе. Гучанне асноўнай адраджэнцкай ідэі ўзмацняецца.

У аўтара "Надлому" цяпер вялікі клопат з перавыданнем твору, якім, дарэчы, падсумоўваецца працяглы ў часе пісьменніцкі досвед. Гэты твор з'яўляецца выніковым, калі не знакавым яшчэ і таму, што нарадзіўся Васіль Цімафеевіч 5 траўня 1936 года.

Грамадскія аб'яднанні Саюз беларускіх пісьменнікаў, Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", Беларускі літаратурны фонд і Беларускі сацыяльна-экалагічны саюз "Чарнобыль", жадаючы аказаць аўтару арганізацыйную падтрымку, запрашаюць чытачоў, якія зацікавяцца другім выданнем рамана, прыняць удзел у яго фінансаванні на парытэтнай аснове.

Адзін асобнік рамана "Надлом" у новай рэдакцыі, пры аб'ёме выдання ў 740-старонак, накладам 1000 экз. у цвёрдай вокладцы (з перасылкай кнігі па пошце) будзе каштаваць 20 тысяч рублёў. Кнігу мяркуецца выдаць у першай палове 2006 года.

Для чытачоў-партнёраў, удзельнікаў гэтай своеасаблівай грамадзянскай акцыі, паведамляем дабрачынны рахунак для пераводу грошай:

**ГА БелСаЭС "Чарнобыль"**
**рах. №3015001097017**
**"Пріорбанк"**

**ААТ ЦБП 111,**
**г. Мінск, код 749**
**Ахвяраванне на перавыданне кнігі В.Якавенкі "Надлом".**

**ОО БелСоЭС**
**«Чернобыль»**
**сч. № 3015001097017**
**«Приорбанк»**
**ОАО ЦБУ 111,**
**г. Минск, код 749**
**Пожертвование на переиздание книги В. Яковенко «Надлом».**

Раім пры гэтым разборліва пісаць свой зваротны адрас, прозвішча, імя, імя па бацьку.

Адрас: БелСаЭС "Чарнобыль":
220002, вул. Крапоткіна, 44, г. Мінск, тэл. 234-22-41, тэл./факс 271-58-19
электронная пошта аўтара: natalja@tut.by.

Саюз беларускіх пісьменнікаў, Згуртаванне - беларусаў свету "Бацькаўшчына" і Беларускі літаратурны фонд, разам з БелСаЭС "Чарнобыль", падтрымліваючы перавыданне "Надлому", выказваюць спадзяванне на поспех праекту.

Зварот ад вышэйназваных арганізацый падпісалі: Алесь Пашкевіч, Аляксей Марачкін, Язэп Янушкевіч, Васіль Якавенка.



**МІНСКІ ГАРАДСКІ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ**

220050, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 8
тэл: (017) 227 05 75, 227 16 88
Р/р 3730201040010 у філіяле МГД Белінвестбанка г. Мінска, код 764

**МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ**

220050, г. Минск, пр. Ф. Скорины, 8
тел: (017) 227 05 75, 227 16 88
Р/с 3730201040010 в филиале МГД Белинвестбанка г. Минска, код 764

**Председателю общественного объединения «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» Трусову О.А.**

О лотерее «Родны горад»

**Уважаемый Олег Анатольевич!**

Минский городской исполнительный комитет рассмотрел Ваше письмо от 13.12.2005 г. № 222 и сообщает следующее.

Организатором местной постоянно действующей денежно-вещевой мгновенной лотереи «Родны горад» выступает Республиканское унитарное предприятие «Белорусские лотереи», которое является заказчиком на изготовление лотерейных билетов и организует их реализацию.

В течение 2005 года реализовались билеты второго выпуска (серии) мгновенной лотереи «Родны горад». В настоящее время изготовлены и передаются в реализацию билеты третьего выпуска (серии) общим тиражом 256 000 шт. Мгновенная лотерея «Родны горад» будет продаваться реализаторами Республиканского унитарного предприятия «Белорусские лотереи» начиная со второй половины января 2006 года, а с февраля 2006 года и в отделениях АСБ «Беларусбанк».

Макет лотерейного билета мгновенной лотереи «Родны горад» прилагается.

С уважением,

Заместитель председателя Н. В. Метлицкий.







© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



Ірэна Стасевіч-Ясюкова

# КАЗІМІР НАРБУТ

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Гэтая публікацыя, як і дзве папярэднія школьныя кнігі, адпавядала тагачаснай палітычнай сітуацыі ў Польшчы, таму што выйшла яна падчас Барскай канфедэрацыі[9] - збройнага выступлення часткі польскай шляхты супраць палітычнай і ваеннай перавагі Расіі на тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Да канфедэрацыі далучыўся і брат Казіміра Нарбута, таму ён быў сведкам тактыкі іх дзеянняў. Аднак кнігу Нарбут прысвяціў Міхалу Казіміру Агінскаму[10], стваральніку палескага канала, шмат зрабіўшаму для развіцця гаспадаркі ў краіне.

На жаль, загінулі, напэўна, два ненадрукаваныя рукапісы перакладзеных Нарбутам таксама з французскай мовы рэлігійных твораў - ***"Evangole muditue"*** (фр. *"Эвангелічныя разважанні"*) і ***"La religion christienne muditue"*** (фр. *"Разважанні аб хрысціянскай рэлігіі"*).

Памылковай з'яўляецца інфармацыя, што Нарбут быў аўтарам вершаў, якія ананімна змяшчаліся ў перадавых выданнях часоў Станіслава Аўгуста Панятоўскага - *"Маніторы"*[11] і *"Забаўках прыемных і карысных"*[12]. Вершы гэтыя выйшлі з-пад пяра яго пляменніка, Войцеха Нарбута[13].

Як бачна, пісьменніцкая спадчына Нарбута, якая амаль цалкам паўстала ў віленскі перыяд яго маладосці, не надта вялікая. Напэўна, пісьменніцкая праца не была яго жыццёвым захапленнем, але Нарбут застаўся ў нацыянальнай польскай свядомасці амаль выключна як аўтар першай напісанай па-польску логікі. Такі дзіўны часамі бывае лёс. Далейшае жыццё Казіміра Нарбута ў сталым узросце, калі ён 20 год правёў у Варшаве, сведчыць аб тым, што ён быў перад усім дзеячам асветы і належаў да інтэлектуальнай эліты часоў караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Не трэба забываць і пра Казіміра Нарбута - ксяндза: да 1775 года ён быў піярам, але пазней секулярызаваўся, г.зн. пасля дазволу папы стаў свецкім святаром - пробашчам у Радзыміне пад Варшавай і ў Лідзе. Як ён сумяшчаў гэтыя два абавязкі ў дзвюх так далёкіх адсябе мясцовасцях? Гэта ўжо далейшая, вельмі цікавая гісторыя. Вернемся пакуль на хвіліну ў юнацкі перыяд дзейнасці Казіміра Нарбута на Віленшчыне, дзе, дзякуючы напісаным ім школьным кнігам і дыдактычным дасягненням у піярскім Collegium Nobilium у Вільні, ён стаў вядомай асобай. Безумоўна, значэнне мела і паходжанне, і сямейныя заслугі сям'і Нарбутаў: якніяк, яго бацька - таксама Казімір Нарбут - быў лідскім маршалкам, што палягчала здольнаму піяру кантакты з найбольш вядомымі на ўсходніх межах Рэчы Паспалітай шляхецкімі сем'ямі, нпр. з разгалінаваным родам Бжастоўскіх. Якраз з сынамі Міхала Бжастоўскага, літоўскага падскарбія, Казімір Нарбут выехаў у якасці апекуна ў Германію і Францыю. Там ён зноў сутыкнуўся з заходнееўрапейскай інтэлектуальнай элітай, з самымі новымі навуковымі дасягненнямі. Там жа ён перажыў першы падзел Польшчы ў 1772 годзе, таму што на радзіму вярнуўся толькі ў 1774 годзе.




**Алегорыя Камісіі нацыянальнай адукацыі**

***Час стабілізацыі. Салоны і адукацыйная дзейнасць.***

Пасля вяртання з-за мяжы Казімір Нарбут затрымліваецца ў Варшаве. Затрымліваецца і застаецца тут на наступныя дваццаць год, праводзячы ў сталіцы ўсе свае сталыя гады. У гэты час выразна фармуюцца яго інтарэсы, якія рэалізуюцца ў разнастайнай адукацыйнай дзейнасці, прыходзіць і выразная матэрыяльная стабілізацыя. У 1774 годзе Нарбут меў 36 гадоў і быў ужо настолькі вядомы ў магнацкіх колах Рэчы Паспалітай, што вялікі канцлер літоўскі князь Міхал Фрыдэрык Чартарыйскі[14], які жыў у Варшаве і быў дзядзькам караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, зрабіў яго сваім блізкім супрацоўнікам, аказваючы поўны давер. Гэтыя абставіны ўвялі Казіміра Нарбута ў варшаўскія салоны, у тым ліку і ў каралеўскі замак. Пасля смерці князя Чартарыйскага ў 1775 годзе Нарбут і далей застаўся пры двары Чартарыйскіх, дзе служыў радай і дапамогай жонцы памерлага канцлера, Элеаноры. Варта дадаць, што Чартарыйскі вельмі высока цаніў інтэлектуальныя здольнасці піяра і ў спадку пакінуў яму сваю вельмі каштоўную бібліятэку, якая, на жаль, загінула падчас бурнай гісторыі Рэчы Паспалітай.

Як праходзіла "стабілізацыя" Нарбута? За гэты час ён атрымаў ступень доктара юрыдычных навук у Кракаўскай Акадэміі і на гэтым скончыў уласную адукацыю. Ён вырашыў, што надышоў час перадаваць свае веды іншым і дзяліцца з імі сваім педагагічным досведам. Доўга чакаць не прыйшлося. У 1775 годзе Камісія нацыянальнай адукацыі[15] - першае ў Еўропе міністэрства асветы - прызначыла яго членам Таварыства пачатковых кніг[16], якое якраз ствараласа. Гэта быў выканаўчы орган Камісіі Адукацыі, мэтай якога была падрыхтоўка і рэцэнзаванне школьных праграм, ацэнка дасланых на конкурснай аснове праектаў школьных кніг, іх друкаванне і дастаўка ў школы, якія дзейнічалі ўжо па новых правілах і рэалізавалі новыя праграмы. Падчас падзелаў Рэчы Паспалітай, калі Польшча губляла сваю незалежнасць, выхаванне маладога пакалення ў нацыянальным духу было вельмі важным заданнем. Напісаныя на польскай мове падручнікі, навуковы змест якіх быў бы на заходнееўрапейскім узроўні і разам з тым патрыятычным, павінны былі быць дзейсным сродкам выхавання новага пакалення палякаў, якое магло б супрацьстаяць дэнацыяналізацыі і быць гатовым да адбудовы незалежнай дзяржавы.

Таму заданне Таварыства пачатковых кніг было вельмі важным, а значыць, яго членамі павінны былі быць найбольш свядомыя грамадзяне, якія карысталіся маральным аўтарытэтам і разам з тым мелі педагагічны досвед. Усім гэтым умовам адпавядаў Казімір Нарбут. А гэта, разам са станоўчымі характарыстыкамі са двара князя Міхала Чартарыйскага, паўплывала на прызначэнне 10 лютага 1775 года вучонага піяра ў Таварыства пачатковых кніг, якое якраз паўставала і пачало сваю дзейнасць 7 сакавіка гэтага ж года, а скончыла ў 1792. Яно складалася з больш за дзесяць чалавек, так званых ардынатарных (звычайных) членаў, якія прызначаліся Камісіяй Нацыянальнай Адукацыі, і экстраардынатарных, або ганаровых. Гэта былі камісары Камісіі Нацыянальнай Адукацыі, якія прызначаліся на змену старшыням на паседжаннях Таварыства; часцей за ўсё - самы малодшы сярод іх, Ігнацій Патоцкі[17], але таксама і князь Адам Казімір Чартарыйскі[18] або палітычна-маральны аўтарытэт польскага народа, кавалер Ордэна Белага Арла Андрэй Замойскі[19]. Як бачна, гэта быў калектыў, які павінен быў сыграць важную ролю ў змене сістэмы адукацыі маладога пакалення палякаў.

---

[9]***Барская канфедэрацыя*** *1768–72 гг., збройнае аб'яднанне шляхты, заснаванае 29.2.1768 г. у г. Бар на Падоллі (Украіна) пад лозунгам абароны "веры і вольнасці" супраць Расійскай імперыі і караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага; мэтай канфедэрацыі было скасаванне усіх законаў прынятых з 1764 г., дэтранізацыя караля. Ініцыятарамі канфедэрацыі былі А. Красінскі, Е. Патоцкі, Ю. Пуласкі і інш., яны лічылі на дапамогу Турцыі, Францыі, Саксоніі, Аўстрыі. Драмай канфедэратаў было тое, што змагаючыся за незалежнасць краіны, яны змагаліся за парадкі, якія аслаблялі польскую дзяржаву. Сёння для адных гісторыкаў канфедэрацыя з'яўляецца першым народнавызваленчым паўстаннем, для іншых – апошнім бунтам у абарону старых парадкаў, авантурай, якая справакавала першы падзел Польшчы.*

[10]***Агінскі****, Міхал Казімір (1730-1800), з 1768 г. гетман вялікі літоўскі, пісьменнік, музыкант, удзельнік Барскай канфедэрацыі, фінансаваў будову канала, які злучыў Нёман з Дняпром, мецэнат мастацтваў (у сваёй рэзідэнцыі ў Слоніме арганізаваў оперу), аўтар баек, вершаў, песень, драм з музыкай.*

[11]***"Манітор"*** *-- адзін з вядучых грамадска-маральных часопісаў польскай эпохі асветы, выдаваўся у 1765–85 гадах у Варшаве, першапачаткова 1, а затым – 2 разы ў тыдзень пад патранатам караля Станіслава Аўгуста. Прапагандаваў ідэі рацыяналізму, рэлігійнай талеранцыі, грамадска-палітычных перамен, змагаўся з цемнатой, праявамі* ***сармацкай*** *шляхецкай ідэалогіі. Сярод яго рэдактараў І. Красіцкі (1765-67 гг.), Ф. Багамолец (1768 г.) і інш. знакамітыя асветнікі.*

[12] ***"Забаўкі прыемныя і карысныя"*** *(поўная назва: "Забаўкі прыемныя і карысныя сабраныя ад розных аўтараў") першы польскі літаратурны часопіс, які выходзіў штотыдзень у 1770–77 гг. у Варшаве, заснавальнік і рэдактар Ю. Альбертрандзі, з 1771 г. – А. Нарушэвіч, неафіцыйны орган чацвярговых абедаў, прапагандаваў прынцыпы станіславаўскага класіцызму. У "Забаўках..." дэбютавалі: І. Красіцкі, С. Тамбэцкі, Т.К. Венгерскі, Ю. Шыманоўскі.*

[13] ***Нарбут Войцех*** *(1762, Сукурчы - 1837), пісьменнік, шамбелян караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, уладальнік маёнтка Сукурчы к. Крупава. З 1788 г. пасол Лідскага павету на Чатырохгадовы сойм, супраціўнік Канстытуцыі 3 траўня. Удзелнік паўстання 1794 г. у званні паручніка. З 1801 г. настаўнік і выхаваўца Дамініка Радзівіла. У 1809-1812 гг. маршалак Лідскага павету. Напісаў цікавыя мемуары пра прыдворнае жыццё (у рукапісу), вершы.*

[14] ***Чартарыйскі, Міхал Фрыдэрык****, князь, (1696–1775), сын Казіміра, падканцлер літоўскі з 1724 г., канцлер вялікі літоўскі з 1752 г.; разам з братам Аўгустам адзін з палітычных кіраўнікоў фаміліі; першапачаткова прыхільнік Аўгуста II; у 1733 г. падтрымаў Станіслава Ляшчынскага; 1736 г. пагадзіўся з Аўгустам III, на соймах 1744-50 гг. спрабаваў правесці праграму рэформ Рэчы Паспалітай; 1764 г., пад аховай расійскіх войск арганізаваў у Вільні Генеральную канфедэрацыю супраць К. Радзівіла і перамог; у пачатку панавання Станіслава Аўгуста Панятоўскага быў адным з дарадцаў караля, выступаў супроць яго спробаў арганізавання ўласнай партыі.*

[15] ***Камісія нацыянальнай адукацыі****, першая ўстанова па кіраўніцтву асветай ў Еўропе. Заснавана соймам Рэчы Паспалітай ў 1773-75 гг. Ажыцявіла рэформу школ і універсітэтаў у духу ідэй Асветніцтва. Галоўнае значэнне надавалася прадметам фізіка-матэматычнага цыклу, з гуманітарных навук выкладалася польская і лацінская граматыка, геаграфія, гісторыя і інш.*

[16] ***Таварыства пачатковых кніг*** *(1775-92), орган Камісіі нацыянальнай адукацыі, было арганізована для правядзення работ па апрацоўцы новых школьных праграм і падручнікаў, займалася таксама законатворчай дзейнасцю; з цягам часу ператварылася ў галоўны орган па надзору і кантролю за адукацыяй.*

[17] ***Патоцкі Ігнацій*** *(1750–1809), брат Станіслава Косткі, надворны маршалак літоўскі з 1783 г., вялікі літоўскі ў 1791-93 гг., палітык, пісьменнік, член Камісіі нацыянальнай адукацыі, старшыня Таварыства пачатковых кніг, кіраўнік антыкаралеўскай апазіцыі, падчас Чатырохгадовага сойму (1788-92 гг.), з'яўляўся фактычным кураўнікам патрыятычнай партыі, супраціўнік саюзу з Расіяй, сааўтар рэформ і праектаў законаў, для рэалізацыі праграмы змен давёў апазіцыю да яднання і сумеснага дзеяння з Станіславам Аўгустам, адзін з аўтараў Канстытуцыі 3 траўня. Пасля агрэсіі Расіі супраць Рэчы Паспалітай у 1792 г. выступіў супраць далучэння караля да таргавіцкай канфедэрацыі; на эміграцыі удзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання, аўтар асноўных прававых актаў часу Касцюшкаўскага паўстання, старшыня Аддзелу замежных спраў Вышэйшай народнай рады. Пасля задушэння паўстання – вязень Расіі (да 1796 г. у Пецярбургу), у 1798-1800 гг. – Аўстрыі. З 1801 г. член Таварыства сяброў навукі, сааўтар "Аб устанаўленні і ўпадку польскай Канстытуцыі 3 траўня 1791 г." (*O ustanowieniu i upadku Konstytucji Polskiej 3 Maja *1791) 1793.*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013





Паседжанні Таварыства адбываліся раз у тыдзень, а калі існавала такая патрэба, то і часцей (за выключэннем канікулаў). Звычайныя члены, якім быў Казімір Нарбут і якія атрымлівалі ад улад Камісіі Нацыянальнай Адукацыі штомесяц узнагароджванне, былі абавязаны ўдзельнічаць ва ўсіх паседжаннях. За кожную адсутнасць з належнай ім платы адымалася адпаведная сума. Апраўданнем магло быць толькі дрэннае надвор'е, якое не давала магчымасці перамяшчацца па Варшаве, або хвароба. У пратаколах паседжанняў Таварыства пачатковых кніг ад 24 і 31 студзеня 1783 года можна прачытаць, што Казімір Нарбут адсутнічаў на сесіі *"... у сувязі з немагчымасцю пераправы цераз Віслу..."*, з-за марозу. А Нарбут быў адным з найбольш дысцыплінаваных членаў гэтага калектыву. На працягу 17 год дзейнасці яму даручалі велізарную колькасць усялякіх заданняў, якія часта патрабавалі незапланаваных сустрэч, часамі нават штодзённых, нпр., з тымі аўтарамі школьных падручнікаў, якія не спраўляліся ў тэрмін са сваімі абавязкамі.

Такім чынам, Казімір Нарбут ацэньваў дасланыя праекты і тэксты розных школьных кніг: і буквары для прыходскіх школ, і падручнікі граматыкі, свецкіх маральных навук, матэматыкі. Падчас дыскусіі аб неабходнасці ўвядзення ў школы свецкай маральнай навукі побач з "навукай хрысціянскай" Нарбут быў на баку той першай, даводзячы, што яна з'яўляецца асновай для рэлігійнага выхавання, таму што звяртае ўвагу вучняў на тое, што ў іх ёсць не толькі правы, але і абавязкі: перад бацькамі, школай, а ў будучым - і перад дзяржавай. Рэлігія і свецкая маральная навука павінны - паводле Нарбута - узаемадзейнічаць, каб выхаваць добрага хрысціяніна і прыстойнага чалавека. Заслугоўвае ўвагі тое, што гэтыя словы сказаны і замацаваны на пісьме святаром.

Колькасць спраў у Таварыстве пачатковых кніг рабілася з кожным годам усё большай, гэтак жа, як і іх разнастайнасць. Вельмі шмат увагі патрабавала рэцэнзаванне дасыланых на конкурс праектаў падручнікаў, часта іншамоўных, або падрыхтоўка для польскіх падручнікаў перакладаў фрагментаў з твораў старажытнай літаратуры. Да таго ж кожны год трэба было рабіць падагульненне ўсяго зробленага за гэты перыяд у Таварыстве.

Нарбут удзельнічаў таксама ў падрыхтоўцы Школьных статутаў, што было вельмі сур'ёзным адукацыйным пачынаннем і патрабавала ведаў і педагагічнага досведу. У той жа час ён выконваў розныя даручэнні, нпр., супрацоўнічаў з Іаахімам Храптовічам[20] **падчас стварэння сістэмы меры і вагі**, якая б была адзінай у Кароне (цэнтральнай Польшчы), у Вялікім Княстве Літоўскім і ў іншых дзяржавах.

Пра далучэнне Нарбута да прац Таварыства сведчаць шматлікія тэксты, якія выйшлі з-пад яго пяра і засталіся ў рукапісах: заўвагі пра падручнік матэматыкі Францішка Лульера або пра праект падручніка логікі. Трэба сказаць і пра вельмі цікавы факт. Хаця Казімір Нарбут і быў у Таварыстве асобай, якая мела аўтарытэт і з якой лічыліся, усё ж да яго не ставіліся неяк выключна. Доказам гэтага з'яўляецца ацэнка яго Логікі, усё ж такі першай, напісанай па-польску; больш за тое - кніга мела другую, палепшаную рэдакцыю і была распаўсюджана на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага. Камісія нацыянальнай адукацыі прызнала гэты падручнік часовым, а Таварыства пачатковых кніг аб'явіла конкурс на новы праект Логікі. Напэўна, гэта не было прыемна Нарбуту, які, каб выпіць гэтую кроплю горычы да рэшты, па заданні Таварыства яшчэ і ацэньваў праекты. Былі і іншыя ўрокі ПАКОРЫ.

Казімір Нарбут апрацаваў Слоўнік старажытнай геаграфіі, які - як паказала публічнае чытанне фрагментаў - патрабаваў яшчэ значнай дапрацоўкі. Крытычныя ўвагі членаў Таварыства аўтар прыняў з разуменнем, але ў выніку гэты слоўнік застаўся ў рукапісе.

Але, нягледзячы на розныя непрыемнасці, якія не мінаюць у жыцці нікога, Нарбут быў адным з найбольш вядомых членаў Таварыства, працуючы ў ім самаадданa і канструктыўна ад пачатку да канца яго існавання ў 1775-1792 гадах - 17 год. Ён выразна канкрэтызаваў погляд на кірунак рэформ у адукацыі моладзі і лічыў, што ў сувязі з падзелам Рэчы Паспалітай паміж Расіяй, Аўстрыяй і Прусіяй трэба асабліва паклапаціцца **пра асноўную сувязь для народа - пра польскую мову.** Менавіта яна павінна замяніць у школьных падручніках латынь. Гэтая пазіцыя Нарбута яскрава праявілася ў 1776-1777 годзе ў палеміцы з Бэлем, які ў выдаваным у, Германіі передавым еўрапейскім часопісе васемнаццатага стагоддзя *"Acta Eruditorum lipsiensium"* атакаваў праграму дзейнасці Таварыства пачатковых кніг.

Больш за дзесяць год дзейнасці Нарбута ў гэтай адукацыйнай установе, якая ў цяжкія для Рэчы Паспалітай гады працавала выключна паспяхова, трэба прызнаць найважнейшым перыядам у яго жыцці, калі браць пад увагу яго неаспрэчна вялікі ўклад у барацьбу за захаванне нацыянальнай свядомасці маладога пакалення палякаў.

* * *

1775 год быў для Казіміра Нарбута асабліва важным: у гэтым годзе ён стаў членам Таварыства пачатковых кніг, у гэтым годзе ён секулярызаваўся (стаў свецкім святаром) "з абавязкам нашэння знаку прыналежнасці да піяраў", як піша Антоні Машынскі. Секулярызацыя была важнай для Нарбута таму, што зр-біла магчымай для яго матэрыяльную стабілізацыю: як свецкі святар ён мог атрымаць прыход, які прыносіў бы стабільныя даходы. Пра гэта адразу паклапаціліся апекуны Нарбута. Ад княгіні Элеаноры Чартарыйскай - удавы былога яго працадаўцы канцлера - ён атрымлівае прапанову прыняцця прыходу ў Радзыміне, дзе знаходзілася яе летняя рэзідэнцыя. Князь і віленскі біскуп Ігнацій Масальскі[21] прызначае Нарбуту прыход ў яго роднай Лідзе пасля добраахвотнай адмовы ксяндза Антонія Эйсманта.

Такім чынам, дзякуючы добразычлівай дапамозе іерарха касцёла і ўплывовай княгіні Элеаноры Чартарыйскай, якой Казімір Нарбут апекаваўся да канца яе жыцця, ён атрымаў поўную матэрыяльную стабілізацыю. У тым, што Нарбут высока яе цаніў, мы ўпэўнімся ў далейшай частцы нашага аповеду.

***Ксёндз*.**

Такім чынам, Казімір Нарбут - ужо ў якасці свецкага святара - прыняў прыход у Радзыміне, замяніўшы былога пробашча Ігнацыя Астоя Нагурчэўскага, які добраахвотна адмовіўся ад гэтай пасады для свайго наступоўцы, цесна звязанага з сям'ёй Чартарыйскіх. Княгіня Элеанора хацела пабудаваць новы касцёл пры сваёй летняй рэзідэнцыі. Таму не дзіўна, што ёй быў патрэбны пробашч, да якога яна мела б поўны давер і на сапраўдную дапамогу якога магла б разлічваць. Ксёндз Нарбут не расчараваў сваёй дабрадзейкі, дапамагаючы ў будове "...на 7 квартапаў новага мураванага касцёла, які ксёндз Міхап Панятоўскі, у тыя часы плоцкі біскуп, а пазней прымас, у прысутнасці караля Станіслава Аўгуста асвяціў, а кароль адлітыя званы, яго імем асвечаныя, для гэтага касцёла падараваў; сюды Нарбут у нядзелі і святочныя дні прыязджаў з Варшавы і як добры святар сам адпраўляў вялікія набажэнствы, праводзіў навуку, слухаў споведзі і выконваў іншыя святарскія паслугі. Прыгаданы кароль вельмі шанаваў Нарбута і надаў яму Ордэн Станіслава рэскрыптам 23 лістапада 1793 г.; больш за тое, падчас Чатырохгадовага сойму[22], калі пры дазволе рымскага двара ў Польшчы і Літве павінен быў адбыцца новы падзел епархій, кароль абяцаў прызначыць Нарбута першым біскупам **гарадзенскай епархіі**, якая павінна была паўстаць на месцы інфлянцкай" - так пісаў неаднаразова ўжо прыгаданы першы сур'ёзны біёграф Нарбута Антоні Машынскі. Безумоўна, на зацікаўленне Станіслава Аўгуста Панятоўскага аснашчэннем касцёла і пробашчам мела ўплыў удава канцлера Элеанора Чартарыйская, зацікаўленая эмацыянальна і фінансава як мага больш хуткай перадачай радзымінскага касцёла вернікам. У "Варшаўскай газеце" за 1779-1782 гады вельмі шмат апісанняў чарговых этапаў будовы касцёла, рэлігійных і свецкіх урачыстасцяў, якія ў сувязі з гэтым адбываліся, а таксама дакладнай інфармацыі пра прыезд у Радзымін да сваёй цёткі караля і біскупаў - Міхала Панятоўскага[23] і Адама Нарушэвіча[24].

*(Працяг у наступным нумары.)*

[18] ***Чартарыйскі Адам Казімір***, *князь (1734-1823), дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, аўтар камедый, тэарэтык і літаратурны крытык, мецэнат артыстаў і паэтаў, фельдмаршал аўстр. арміі (1808 г.), пасол на соймы 1756, 1758, 1760, 1762 гг. У 1764 г. выбраны маршалкам канвакацыйнага сойму і фамiліяй Чартарыйскіх вылучаны кандыдатам на трон Рэчы Паспалітай, але пад націскам Кацярыны II адмовіўся ад яго на карысць свайго стрыечнага брата С. Панятоўскага. Ініцыятар (разам з фамiліяй) правядзення карэнных рэформ дзяржаўнага ладу Рэчы Паспалітай. У 1766 г. яму даручана рэфармаванне войска ВКЛ. У 1767 г. далучыуся да Радамскай канфедэрацыі і ўзначаліў магнацкую апазіцыю каралю. У выніку канфлікту з каралём выехаў за мяжу. У 1768 г. камендант Варшаўскага кадэцкага корпуса, камандзір палка пешай літоўскай гвардыі, ген.-лейтэнант (1775 г.), камандзір 1-й і 2-й дывізіі войска ВКЛ (да 1783 г.). У 1773-76 гг. член Камісіі нацыянальнай адукацыі (займаўся м. ін. справай выхавання дзяўчат). Пасол Чатырохгадовага Сойму 1788-92 гг., прыхільнік Канстытуцыі 3 траўня 1791 г., зблізіўся з каралём. Адмовіўся ад патрабавання Расіі аб далучэнні да Таргавіцкай канфедэрацыі і выехаў у Вену. Пасля прыходу войск Напалеона ў Варшаву у 1812 г. выбраны маршалкам Надзвычайнага сойму і Генеральнай канфедэрацыі. Заснавальнік т. н. малога «Манітора» 1763 г. і сузаснавальнік вялікага «Манітора», аўтар камедый для тэатру школы кадэтаў і Нацыянальнага Тэатру, патранаваў працацы Б. Лінда над слоўнікам польскай мовы. Яго рэзідэнцыя ў Пулавах была асяродкам грамадска-палітычнай і культурнай дзейнасці.*

[19] ***Замойскі Андрэй*** *(1717–92), ваявода ўроцлаўскі 1757–64 гг., маршал Кароннага Трыбуналу 1761 г., канцлер вялікі каронны 1764–67 гг.; адзін з кіраўнікоў партыі Фамiліі; у частцы сваіх маёнткаў адмяніў паншчыну, працаваў над гарадской рэформай; у 1767 г. адмовіўся ад пасады канцлера пратэстуючы супраць вывазу дэпутатаў у Калугу. Апрацаваў "Зборнік судовых праў на падставе Канстытуцыі 1776 г." т. зв. Кодэкс Андрэя Замойскага*

[20] ***Храптовіч Іяхім Літавор*** *(1729-1812), дзяржаўны, навук. і культ. дзеяч ВКЛ. Вучыўся ў Нясвіжскім калегіюме, Віленскай акадэміі, у Брунсбергу. У 1752-64 гг. стольнік наваградскі; выбіраўся дэпутатам Трыбуналу ВКЛ у 1753, 1765 гг. (яго маршалак). З 1764 г. вялікі. сакратар ВКЛ, з 1773 падканцлер ВКЛ, у 1793 прызначаны канцлерам ВКЛ (адмовіўся); у 1791-92 гг. член Пастаяннай рады, міністр замежных спраў Рэчы Паспалітай. Суарганізатар і член Камісіі народнай адукацыі (займаўся дэпартаментам школ ВКЛ). У часе Чатырохгадовага сойму апрацаваў праекты законаў аб направе ўраду і гарадскога права. Адзін з заснавальнікау Варшаўскага таварыства сяброў навук. У працах «Аб штогадовым нацыянальным узнаўленні» (1802), «Аб натуральным праве» (1814 г.) развіваў ідэі адзінства і ўзаемазалежнасці законаў прыроды і грамадства, асветніцкага гуманізму і маральнага ўдасканалення асобы. Аўтар вершаў на польскай мове, арт. «Паэзія» (1781 г.), «Памяткі пра род Літавораў...» (апубл. 1890-91 гг.), артыкулаў на с.-г. тэмы. У сваім маёнтку ў Шчорсах (вёска у Наваградскім р-не) адмяніў паншчыну, пабудаваў палац, школу, уніяцкую царкву, заснаваў бібліятэку.*

[21] ***Масальскі Ігнацій*** *(1729-1794), князь. З 1752 г. рэферэндарый літоўскі, з 1762 г. біскуп віленскі. Доктарр кананічнага і рымскага права (1752 г.). Вучыўся ў Рыме. На сойме 1773-75 гг., на якім адбыўся першы падзел Рэчы Паспаліта быў паслушным інструментам расійскага амбасадара. У 1773-88 гг. падтрымваў, а часам ініцыяваў рэформы караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, крытыкаваў прыгоннае права. Першы старшыня Камісіі народнай адукацыі (1773-80 гг.). На Чатырохгадовым сойме 1788-92 гг. выступіў супраць прагрэсіўных рэформ, падтрымаў Таргавіцкую канфедэрацыю, член Пастаяннай камісіі. Рэдактар універсалу, у якім асудзіў паўстанне 1794 г., абвінавачаны ў дзяржаўнай здрадзе, публічна павешаны ў Варшаве.*

[22] ***Чатырохгадовы Сойм (Вялікі Сойм)*** *працаваў у Варшаве з 6.X.1788 г. па 29.V.1792 г. Маршалкі - рэферэндар каронны С. Малахоўскі і генерал артылерыі ВКЛ К. Н. Сапега. Каб рашэнні маглі прымацца большасцю галасоў, сойм абвясціў сябе канфедэрацыяй. Выкарыстоўваючы міжнародную сітуацыю – Расія звязана вайной з Турцыяй, адкрыты пратэктарат Прусіі – правёў паступовыя грамадскія і палітычныя рэформы, скіраваныя на аднаўленне поўнага суверынітэту і ратаванне незалежнасці, а таксама палягчэнне гаспадарчага развіцця краіны. У 1788 г. вырашана стварыць 100-тысячную армію, у 1789 г. зліквідавана Пастаянная рада як сімвал расійскага пратэктарату, Расія была вымушана вывесці з Рэчы Паспалітай свае войскі, у 1791 г. прыняты закон аб ладзе каралеўскіх гарадоў. Найважнейшым дакумантам, ухваленым соймам стала Канстытуцыя 3 траўня 1791 г., першая канстытуцыя ў Еўропе. Падчас апошняга году працы Сойму былі прыняты законы аб сойме, Стражы Правоў, камісіях, трыбуналах, якія развівалі пастановы Канстытуцыі. Не паспелі закончыць працу па кадыфікацыі права, судовай і эканамічнай рэформ. Галоўныя дзеячы: Гуга Калллантай, Станіслаў Малахоўскі, Ян Урсын Нямцэвіч, Ежы Патоцкі і кароль Станіслаў Аугуст Панятоўскі. Справу Чатырохгадовага Сойму разбурыла таргавіцкая канфедэрацыя і збройная інтэрвенцыя (18.V.1792 г.) Кацярыны II. Пасля прайгранай вайны з Расіяй і далучэння караля да таргавічан кіраўнікі сойму выехалі за мяжу, многія з іх адыгралі важную ролю ў касцюшкаўскім паўстанні 1794 г.*

[23] ***Панятоўскі Міхал Ежы*** *(1736–94), князь, біскуп, брат караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, прымас. З 1773 г. біскуп плоцкі, з 1784 г. арцыбіскуп Гнезна, прыхільнік прарасейскай арыентацыі, арганізатар і галоўны кіраўнік каралеўскай партыі, член Пастаяннай рады, член, а з 1766 г. старшыня Камісіі народнай адукацыі; супраціўнік шырокіх рэформ дзяржаўнага ладу, як прымас увайшоў у склад Стражы Правоў. Пасля гарадзенскага сойму 1793 г. член адноўленай Пастаяннай рады, быў супраць паўстання Т. Касцюшкі, грамадская думка абвінаваціла яго ў здрадзе (доказы адсутнічаюць), памёр праўдападобна смерцю самазабойцы.*

[24] ***Нарушэвіч Адам*** *(1733–96), паэт і гісторык, езуіт. Вучыўся ў Пінскім езуіцкім калегіюме, Віленскай акадэміі (1748-54 гг.), Ліёне ў Францыі (1758-62 гг.). З 1775 г. біскуп тытулярны, з 1788 г. смаленскі, з 1790 г. луцкі; 1781-86 гг. сакратар Пастаяннай Рады. Выкладаў у Віленскай акадэміі (да 1773 г.), Варшаўскім езуіцкм калегіюме (1762-64 гг.), Рыцарскай школе ў Варшаве (1766-67 гг.). Сенатар Чатырохгадовага сойму. У 1771-77 гг. радактар журнала "Забаўкі прыемныя і карысныя", супрацоўнік і прыдворны паэт Станіслава Аўгуста Панятоўскага, у сваёй творчасці быў прапагандыстам каралеўскай праграмы рэформаў, творца станіславаўскага класіцызму. Аўтар вострых сатырычных твораў (*Wiek zepsuty *1771,* Chudy literat *1773), гераічных і гумарыстычных од (*Do bizuna *1779), ідылій, лірычных твораў, трагедый. Па ініцыятыве караля апрацаваў "Гісторыю польскага народа" (т. 2-6 1780-86, т. 1 1824), якую давёў да панавання Ягайлы. Сабраў 231 том матэрыялаў "Acta regum et populi Poloni" (т.зв. папкі Нарушэвіча), якія з'яўляюцца вялікай каштоўнасцю для сучаснай навукі.*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



*Алесь Макрацоў*

## ПАРЦЭЛЫ

* * *

*Хвалі паветра...*
*Згінаюцца*
*і распрамляюцца*
*дрэвы.*
*Пульсуе жыццё.*

* * *

*Птахі --*
*дамоў вярнуліся.*
*Спяваюць...*
*Райскія дні.*

* * *

*Да неба*
*ўзняло настрой*
*лесу*
*новае лісце!..*

* * *

*На сцежку*
*з лісця*
*выпаўз вуж...*
*Вялізны.*
*Глядзім*
*праз вясну --*
*вочы ў вочы...*

* * *

*Спявае вада:*
*на канале*
*бабёр*
*збудаваў запруду.*

* * *

*Нібыта снегам,*
*вяршыня лета*
*бялее рамонкамі...*

* * *

*Шпурнуў камяк*
*агароднай зямлі:*
*выбухнула*
*дзяцінствам...*

* * *

*Шапоткі*
*асінавы ліст...*
*Пунсовыя*
*вусны восені.*

* * *

*Паменшала*
*ў вёсцы хат...*
*Часцей*
*налятаюць каршуны.*

* * *

*Старога ваўка*
*не стала...*
*Як адзінока*
*ў бацькавым лесе!*

* * *

*Між снегу*
*чарнеюць яліны,*
*бярозы --*
*у масхалатах...*

* * *

*Вольныя*
*танка і хоку...*
*Кроплі душы...*
*Парцэлы...*

***Кацярына Шкода***

*Дзень вечаровы,*
*Смутак чарговы,*
*Мёртвае дрэва рыпіць.*
*Дзіўныя словы*
*Роднае мовы*
*Нам ні за што не згубіць.*

*Бусел імклівы*
*Дзетак крыклівых*
*Бацьку і матцы нясе.*

*Унукаў дзядулю*
*І сівай бабулі*
*Носіць усім пакрысе.*

*Дзень вечаровы,*
*Родныя словы*
*Зноўку навокал гучаць.*
*Родную мову,*
*Краю аснову*
*Не здольны ніхто*
*адабраць.*

г. Заслаўе.

**ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны"**
**абвяшчае набор слухачоў на курсы беларускай мовы,**
**якія будуць працаваць на працягу трох месяцаў: люты – красавік.**
**У першую чаргу на курсы беларускай мовы будуць залічаны падпісчыкі газеты "Наша слова".**

## Сустрэчы ў ТБМ

**23 студзеня - Кастусь Тарасаў.**
**"Княгіня Соф'я - дачка Вітаўта Вялікага"**
**Вул. Румянцава, 13. Пачатак а 18-й гадзіне.**
**Уваход вольны.**

# *Адновім мову*

**Крыжаванка Лявонція Целеша, г. Дзяржынск**



**Па гарызанталі:**
1. Беларускі паэт. Аўтар паэм "Вайна за мір," "Слуцак", зборнікі вершаў "Беларусь бунтарская", "Вежа". Паэт з трагічным лёсам рэпрэсіраваны. Рэабіліт. у 1957 г.
3. Арэол незвычайнага, звышнатуральнага, які суправаджае дзеянні і паводзіны некаторых людзей.
6. Не агонь, а пячэцца (заг.)
9. Рака ў Мінскай вобласці, левы прыток р. Бярэзіны.
10. Авэ - .... Песня кампазітара І. Лучанка на словы З. Пазняка.
11. Клятва, абяцанне не рабіць чаго-небудзь.
13. Горад, малая Радзіма вядомага бел. пісьменніка У.Караткевіча.
14. Беларускі фалькларыст, грамадскі дзеяч, кандыдат філал. навук, старшыня Рэспубліканскага аб'яднання "Таварыства беларускай школы".
16. Рускі паэт, аўтар паэмы "Дванаццаць". У свой час наведаў заходнебеларускае Палессе.
17. ... на печ – сцюжа – на двор (прык)
19. Статус - ... Становішча, якое існавала раней, або існуе цяпер.
21. Тое ж самае, што і "так".
23. Астатак ад згарэўшай свечкі.
26. Разрыў адносін з кімнебудзь у знак пратэсту супраць чаго-небулзь.
28. Выбарныя заканадаўчыя органы зямель (абласцей) Германіі і Аўстрыі.
29. Польскі гісторык літаратуры, мовазнавец бібліёграф. Паходзіў з беларускага шляхецкага роду. У сваіх працах змяшчаў матэрыялы пра польскіх пісьменнікаў, якія жылі на Беларусі і ўраджэнцаў Беларусі.
31. Зімовы галаўны ўбор замужніх жанчын феадальнай знаці і заможнага гарадскога мяшчанства 16-1 пал 17 стагоддзя.
34. Рака, левы прыток Прыпяці.
35. Выява твару на абразах.
37. Невялікая вельмі рухавая рыба з выцягнутым чэрвепадобным целам.
38. Рускі гісторык. Даследваў гісторыю ВКЛ 16 стаг. Падрыхтаваў і выдаў "Полацкую рэвізію 1552 г.", 2 тамы Метрыкі ВКЛ.
39. Залатая еўрапейская манета ў 13-19 стаг.
40. ... – Саблін. Белар. кінарэжысёр, нар. артыст БССР і СССР, пастаноўшчык фільмаў "Пяюць жаваранкі", "Хто смяецца апошнім", "Чырвонае лісце", "Масква –Генуя".
43. У старажытнагрэчаскай міфалогіі – німфы рэк, ручаёў, крысніц.
44. Замужняя (радзей незамужняя) удзельніца вяселля з боку жаніха і з боку нявесты.
45. Дзяржаўная ўстанова, якая рыхтуе алімпійскія кадры Беларусі (абр.).
46. Раённы цэнтр у Брэсцкай вобласці. На тэрыторыі гэтага раёна знаходзіцца літаратурна-краязнаўчы музей рускага пісьменніка Ф. Дастаеўскага, беларуса па паходжанні.
49. Лініі на геаграфічнай карце, злучаючыя кропкі з аднолькавымі глыбінямі вадаёмаў.
50. Мужчынскае імя.

**Па вертыкалі:**
1. Сялянская гаспадарка ў ВКЛ у 14-18 стаг.
2. Прамысловы раён Германіі.
3. Сырое мокрае надвор'е (пераn.)
4. Ранішняя афарбоўка гарызонту
5. Тачыльны, шліфавальны камень.
6. Беларускі пісьменнік. Аўтар раманаў "Неруш", "Хроніка дзетдомаўскага саду".
7. Біяполе.
8. Заступнік
10. Вузялок, вытканы на роўнай тканіне.
12. Беларускі графік. Працаваў у станкавай і кніжнай графіцы. Распрацоўваў тэмы гісторыі, культуры і культурнай спадчыны беларускага народа.
15. Чалавек, які займаецца карыслівым пасярэдніцтвам паміж мужчынам і жанчынай.
17. Беларускі драматург, пісьменнік. Аўтар п'есы "Гута", якая ў 30-я гады мела вялікі поспех і ішла ў многіх тэатрах былога Саюза. Аўтар першага гукавога фільма на беларускай мове "Двойчы народжаны".
18. Ядомы пласціністы грыб з жоўтавата-белай шапачкай.
20. Беларускі і французкі сусветна вядомы мастак. Нарадзіўся ў г. Віцебску. З 1922 г. жыў у Францыі. Займаўся жывапісам і кніжнымі ілюстрацыямі. У позні перыяд творчасці выступаў як графік, жывапісец, манументаліст, сцэнограф.
22. Вялікі клавішны музычны інструмент.
24. Жывапісец Банапарта Напалеона.
25. У ВКЛ асоба, якая выконвала смяротныя прыгаворы, учыняла катаванні, а таксама забівала бяздомных сабак, вывозіла смецце.
26. Насавая частка верхняй палубы карабля.
27. Урачысты верш.
29. Насталі ......, гаспадарам парадкі (прык) (ці ....... – добрыя святкі: бліны ды аладкі (прык.)
30. Вядомы рускі жывапісец і графік педагог. У 1892-1900 гг. жыў і працаваў ва ўласным маёнтку Здраўнёва на беразе Зах. Дзвіны (цяпер Віцебскі р-н).
32. Незвершаваныя мастацкія творы.
33. Вёска ў Смаргонскім раёне, дзе знаходзіцца мемарыяльная сядзіба беларускага пісьменніка Ф. Багушэвіча.
35. Беларускі паэт 19 стаг. Пісаў на беларускай, польскай і рускай мовах. Збіраў беларускі фальклор аўтар нарыса "З крывавых дзён".
36. Беларускі этнограф, фалькларыст, мовазнавец. Аўтар болей за 700 прац па беларусістыцы, русістыцы. Перапісваўся з Я. Купалам. Я. Коласам, М. Гарэцкім.
41. Неапрацаваная і зараслая лесам або хмызняком зямля, а таксама высека, выкарчаванае месца.
42. Маска-персанаж у старажытным калядным абрадзе. Важны элемент калядавання.
47. Калі хлеб у ..., то няма бяды ў дарозе (прык.).
49. Паэт-рамантык, удзельнік вызваленчага руху ў Беларусі і Літве 19 стаг. Сябраваў з А. Міцкевічам. Аўтар польскамоўных паэм "Кошачка", "Мёд", балады "Свіцязь-возера".

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by
**http://tbm.org.by/ns/**

***Рэдакцыйная калегія:***
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Валер Задаля, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 16. 01. 2006 г. у 11.30. Замова № 8.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы. Наклад 2200 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1270 руб., 3 мес.- 3810 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013